№ 21 (906) 3 чэрвеня 2015 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Юрый Чыж дабудоўвае новую рэзідэнцыю. Плошчай 1335 метраў!



На гэты раз гаворка не пра шматпавярховікі ў Мінску, а пра ягонае асабістае жыллё. Чыж ужо мае катэдж у сталічных Драздах, самым прэстыжным квартале Беларусі, але цяпер вырашыў мець і маёнтак за межамі Мінска. Ягоны новы дом знаходзіцца каля Лагойска. **Старонка 4.**

## «Светам мы не кіруем»

Масон-беларус расказаў пра свой шлях у вольныя муляры. **Старонка 13.**

## Гісторыя жыцця манаха-расстрыгі

«Я не веру, што Бог ёсць, але спадзяюся, што ён існуе». **Старонка 15.**

# На ўласнай скуры

**Юрыя Рубцова з «хіміі» кінулі ў калонію.**

Ён стаяў на судзе аголены па пояс. А на грудзях у яго — вялікая татуіроўка «Лукашенко, уходи». Ён і за краты загрымеў менавіта за гэты надпіс, толькі на футболцы. Ён надзяваў такую майку на мітынгі. Здавалася б, а чаму грамадзянін не можа выказаць так сваё стаўленне да чыноўніка? Але Рубцова пачалі хапаць і судзіць.

Пасля аднаго з такіх «справядлівых» судоў ад горычы Рубцоў сказаў: «Гэта не суд, а судзілішча, а суддзі, якія выносяць супрацьзаконныя прысуды, — падонкі». Суддзёй быў Кірыл Палулех. Ён прыняў гэтыя словы на свой адрас, палічыў абразай.

За гэтую «абразу суддзі» 6 кастрычніка 2014 суддзя Цэнтральнага раёна Мінска Наталля Вайцяховіч прысудзіла Рубцова да 2,5 года «хіміі». Год утрымання адразу скасавалі па амністыі, а самога Рубцова адправілі ў вёску Куплін, адкуль за год да гэтага вызваліўся Павал Севярынец.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» знайшоў у працэсе над Рубцовым шматлікія парушэнні і прызнаў яго вязнем сумлення.

**Працяг на старонцы 2.**




УЛАДЗЬ ГРЫДЗІН



## Вучыцеся на роднай мове!

Спіс беларускамоўных школ і садкоў Мінска. **Старонка 10.**

ЛІДА КАРЦАВА

## Гедройц — у Віктара Казько

1 чэрвеня адбылося ўручэнне штогадовай літаратурнай прэміі імя Ежы Гедройца.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Сёлета першы прыз атрымаў Віктар Казько за кнігу «Час збіраць косці». Ён стаў уладальнікам чэка на суму 10 тысяч еўра ад польскага «Ідэя Банка». Другое месца журы аддало Тацціяне Барысік з Магілёва за кнігу «Жанчына і леапард», а трэцяе — Альгерду Бахарэвічу з раманам «Дзеці Аліндаркі». Барысік і Бахарэвіч атрымаюць магчымасць творчай стыпендыі ў Швецыі і Латвіі адпаведна.

Мы задалі некалькі пытанняў пераможцу конкурсу.

**«Наша Ніва»: У пераможцаў звычайна пытаюцца, на што будуць патрачаныя грошы.**

**Віктар Казько:** Ой, столькі ўсякіх планаў. Трэба рамонт зрабіць у кватэры, на лецішчы. А яшчэ хачу паставіць помнікі на магілах палескіх сваякоў. Можа, і хопіць.

**Працяг на старонцы 2.**

## Падпішыся сам, падпішы дзядоў!

«Наша Ніва» без вас не выжыве. А вы з «Нашай Нівай» будзеце мець у хаце ўсю праўдзівую інфармацыю. **Як падпісацца — старонка 2.**

# Віктар Казько: Грошы патрачу на надмагільныя помнікі сваякам

Працяг са старонкі 1.

**«НН»: Вы чакалі перамогі?**

**ВК:** Я скажу, што гэта была такая нечаканая чаканка. Канечне, я спадзяваўся на найлепшае, але рыхтаваўся да горшага. Мы і жывём дзеля нечаканасцяў, яны намі рухаюць. Я не працую дзеля прэмій, але не магу сказаць, што яны не радуюць. Канечне, радуюць. Мая жонка заўважыла, як публіка рэагавала на мяне. І гэта мяне парадавала, бо публіка ў асноўным была маладая. Некалі ў рэцэнзіі на мой «Бунт незапатрабаванага праху» Анатоль Івашчанка напісаў, што чытаць Казько — «нялёгкая праца».

**«НН»: У сваёй кнізе «Час збіраць косці» Вы пішаце аб 90-х гадах, а што ў сённяшнім грамадстве Вас больш за ўсё радуе і засмучае?**

**ВК:** Засмучае прымітывізацыя. Тэлевізар замяніў людзям кнігу, развучыў іх думаць.

**«НН»: А радуе?**

**ВК:** Вось імпрэза да прэміі Гедройца парадавала. Мяне радуе, што, нягледзячы ні на што, беларуская мова становіцца элітарнай. Раней пра яе казалі «калхозная, дзеравенская». А сёння яна становіцца здабыткам гараджан. Усё болей моладзі гаворыць на ёй.

**«НН»: Але ж на ёй у гарадах усё адно гаворыць вельмі мала людзей.**

**ВК:** А гаварыла яшчэ меней! Я бачу, што працэс ідзе. Адбываюцца пераломныя змены ва ўспрыняцці беларускай мовы. Вось чаму мяне гэта радуе.

**«НН»: Каго Вы сёння чытаеце?**

**ВК:** Не заўсёды хапае часу на чытво нашых кніжак, ды і каб знайсці іх, трэба пабегаць. Я люблю шведскіх, японскіх і кітайскіх аўтараў, я іх аб'ядноўваю, бо бачу, што яны не адрываюцца ад сваіх каранёў. Не паддаюцца на постмадэрнісцкія гульні. Яшчэ чытаю часопіс «Дзеяслоў».

**«НН»: Вы верыце, што беларускі пісьменнік у грамадскай іерархіі некалі зноў можа займаць такое высокае месца, як тое было пры СССР?**

**ВК:** Канечне, не. Калі амерыканскі пісьменнік Джон Стэйнбек наведваў СССР у 1947 годзе, то гаворка зайшла пра ролю амерыканскага пісьменніка ў грамадстве, ён адказаў: «Недзе паміж цюленем і акрабатам». У савецкія часы пісьменнікі былі часткай дзяржаўнай ідэалогіі. Сёння мы адыходзім ад ідэалогіі, і гэта добра.

**«НН»: На Захадзе, ды нават і ў Расіі, ёсць некаторыя аўтары, якія пішуць зусім не папсу, але зарабляюць добрыя грошы.**

**ВК:** Я б не сказаў, што іх шмат. Там у асноўным літаратурны працэс існуе за кошт мецэнатаў. Для пісьменнікаў знаходзяцца спонсары, ёсць фонды, гранты, каб яны маглі думаць толькі аб творчасці. Гэта і Расіі тычыцца. Там дзяржава ўкладвае грошы ў пісьменнікаў, можа, і для таго, каб адцягнуць увагу ад тых самых падзей ва Украіне, у Крыме, сфарміраваць грамадскую думку. У Беларусі ж нічога такога няма, ніхто не гатовы ўкладацца ў літаратуру.

**«НН»: Вы неяк казалі, што ўсе гэтыя разборкі за прэмію Гедройца ад нашай беднасці.**

**ВК:** Вядома! Я добра памятаю, што такое дэфіцыт, якія чэргі стаялі, калі ў крамы завозілі тавары. Сёння ў чэргах стаяць не па каўбасу, а па прэмію. Бо фактычна Гедройц — гэта адзіная грашовая ўзнагарода для пісьменнікаў у Беларусі, таму за ёй стаяць у чаргу. Калі б было болей такіх прэмій, то і кулуарнай гульні было б меней.

**«НН»: Дзякуй за гутарку. Віншуем Вас ад Рэдакцыі з перамогай.**

**ВК:** Дзякуй. Я заўсёды чытаю «Нашу Ніву». Мне падабаецца, што яна самая насычаная сярод нашых газет.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Першым з перамогай Віктара Казько павіншаваў Уладзімір Някляеў (справа).**

**Віктар Казько**

Нарадзіўся ў 1940 у Калінкавічах. У гады вайны ад выбуху бомбы загінула ягоная маці. Гадаваўся ў дзіцячых дамах Гомельскай вобласці. Працаваў шахцёрам на Кузбасе, там і пачаў пісаць першыя творы. У 1971 пераехаў у Мінск. Працаваў у літаратурных часопісах, газетах, Саюзе пісьменнікаў. За кнігу «Суд у Слабадзе» атрымаў дзяржпрэмію БССР. У 2015-м за кнігу «Час збіраць косці» ўзнагароджаны прэміяй імя Ежы Гедройца. Жыве ў Мінску.

# На ўласнай скуры

Працяг са старонкі 1.

На «хіміі» Рубцоў працягваў даказваць, што ён невінаваты. У выніку ён трапіў у баранавіцкі СІЗА, трымаў там галадоўку. А на грудзях сабе ў зняволенні зрабіў нязводную татуіроўку з тым самым злашчасным надпісам «Лукашенко, уходи».

У Пружанах Рубцова судзілі «за ўхіленне ад адбыцця пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі». Рэч у тым, што Рубцоў адмаўляўся ад працы.

Дакладней, не адмаўляўся, але праявіў прынцыповасць і запатрабаваў ад спецкамендатуры пасаду з заробкам не менш чым 600 даляраў у месяц — менавіта такую зарплату абяцаў беларусам Аляксандр Лукашэнка. Ну а якая ж у Пружанах праца на 8 мільёнаў за месяц, дый яшчэ й «хіміку»? Калі Рубцоў адмовіўся ад чатырох нізка аплачваных вакансій, на яго завялі крымінальную справу па артыкуле 415 Крымінальнага кодэкса.

Пружанскі суддзя Мікалай Рэпіха зрабіў заўвагу, што сваім выглядам Рубцоў выказвае непавагу да суда. На гэта Рубцоў адказаў, што ў Мінску яго судзілі ў такім выглядзе — і прэтэнзій не было.

Сапраўды, Рубцова ўжо судзілі з аголеным торсам. Але той раз — не па яго волі. У красавіку 2014-га Рубцова затрымалі пасля «Чарнобыльскага шляху». Тады ён быў у адной са сваіх антылукашэнкаўскіх футболак. Майку з Рубцова амапаўцы знялі і павялі на суд паўголага. Рубцова тады асудзілі на 25 сутак. І менавіта пасля таго асуджэння і адбыўся эпізод з суддзёй Палулехам і «падонкам»...

27 мая суд Пружанскага раёна вынес шафёру Юрыю Рубцову чарговы вырак: «Вінаваты». А гэта 2 гады калоніі агульнага рэжыму.

**Кірыла Хілько**

**Юрый Рубцоў**

нарадзіўся ў Гомелі ў 1961. Рос у дзіцячым доме, пакуль яго не забралі бабулі. Ад 11 гадоў пачаў працаваць. Рабіў у гомельскім аўтапарку і інструктарам у аўташколе, быў звольнены за палітыку.

**Ці ўхваляеце Вы тактыку паводзінаў у зняволенні палітвязня Рубцова?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 118 | 33% |
| Не | 76 | 21% |
| Хто я такі, каб ацэньваць яго? | 167 | 46% |

Усяго прагаласавала 361 чалавек.

## Сцісла

**У друк выходзіць серыя беларускіх класікаў у 26 тамах**

23—24 чэрвеня ў крамы паступяць тамы серыі «Мая беларуская кніга», якую выпускае выдавецтва «Папуры». Серыя мае на мэце паказаць зрэз беларускай літаратуры — ад старажытных легендаў, народных казак, хрэстаматыйных і малавядомых твораў класікаў да працаў сучасных пісьменнікаў. Будуць выдадзеныя творы Уладзіміра Караткевіча, Янкі Купалы, Васіля Быкава, Максіма Багдановіча і іншых.

**Google створыць «разумнае адзенне»**

Інтэрактыўныя джынсы, кашулі і курткі змогуць падключацца да любых гаджэтаў. Напрыклад, правёўшы па кішэні, можна будзе зменшыць гук тэлефона, а націснуўшы на калена — выключыць святло ў пакоі. «Разумныя» валокны могуць быць уплеценыя ў практычна любую тканіну. Першае «разумнае адзенне» *Project Jacquard* мае з'явіцца ў продажы ў 2016 годзе.

**Мёртвае немаўля знайшлі ў кантэйнеры для смецця ў Полацку**

Як паведамляе прэс-служба Следчага камітэта Беларусі, устаноўлена, што дзіця нарадзілася жывым. Вядзецца вышук маці, высвятляюцца дакладныя прычыны смерці нованароджанага.

**Пенсіянерам і інвалідам дазволяць бясплатна гандляваць на мінскіх рынках**

Як паведамілі ва ўпраўленні гандлю і паслуг Мінгарвыканкама, усяго можна будзе прадаваць да 20 кг у дзень сельскагаспадарчай прадукцыі, вырашчанай на зямельным участку, прызначаным для вядзення асабістай падсобнай гаспадаркі. Гандлёвыя месцы даюцца пенсіянерам і інвалідам бясплатна пры наяўнасці імі дакументаў, якія пацвярджаюць права на льготу.

**ЛМ, АА**

## Апытанне на nn.by

**Вы лічыце нармальнай практыку збору грошай у школах?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 51 | 9% |
| Не | 351 | 65% |
| Гледзячы на што | 136 | 26% |

Усяго прагаласавала 538 чалавек.

## Самае чытанае на nn.by за 27 мая — 2 чэрвеня

1 «Таццяна Караткевіч не чалавек, а генератар штампаў»

2 Аляксандр Лукашэнка схадзіў на выпускны да малодшага сына

3 Жыхары Севастопаля: «Такога не было нават пры Украіне»

4 Хто вінаваты? У Гродне сабачнік збіў мужчыну, які абараняў ад сабакі сваё дзіця

5 Хто суправаджае Мацюшэўскага, Чыжа ды іншых чыноўнікаў і бізнэсменаў

6 Палітвязню Юрыю Рубцову далі 2 гады ў калоніі агульнага рэжыму

7 Дома можна захоўваць не больш за 10 літраў замежнага алкаголю: у Гомелі заведзеная справа супраць калекцыянера

8 У Адэсе СБУ накрыла вечарынку супрацоўніка Рускай праваслаўнай царквы з прастытуткамі

9 *The Exploited* адмовіліся граць на адным фестывалі з *Brutto*

10 Алёна Ланская: «Асноўныя прыхільнікі «Еўрабачання» — прадстаўнікі сэксменшасцяў»

# «Таццяна Караткевіч — не чалавек, а генератар штампаў»

Патэнцыйная кандыдатка ў прэзідэнты Таццяна Караткевіч з «Гавары праўду» на мінулым тыдні дала вялікае інтэрв'ю тэлеканалу «Белсат». З палітыкам гутарыла Святлана Калінкіна. Складвалася ўражанне, што на пытанні адказвае не жывы чалавек, а нейкі генератар штампаў і банальнасцяў. Ніводнай эмоцыі ці жарту. Збітыя фразы, асабліва пра «новае ў кампаніі». Так і хочацца спытаць: а падчас прэзідэнцкіх выбараў 2010 года, дзе Караткевіч была ў ініцыятыўнай групе Уладзіміра Някляева, яны не ўлічвалі інтарэсы грамадзян?

Вось набор стандартных адказаў з інтэрв'ю Калінкінай Караткевіч:

«Наша мэта — аб'яднаць людзей, якія хочуць пераменаў. Гэтыя людзі дастойныя таго, каб перамены адбыліся».

«Дзякуючы «Народнаму рэферэндуму» мы можам дамагчыся, каб улады паважалі сваіх людзей, каб медыцына і адукацыя сталі даступнымі, якаснымі і


BELSAT.EU

дастойнымі. Каб наша краіна захавала статус мірнай. Каб адбыліся тыя эканамічныя рэформы, якія дадуць людзям новыя магчымасці працы і сацыяльную абарону».

«Новае ў нас тое, што мы кіруемся інтарэсамі грамадзянаў. Гэта вельмі важна. Мы пайшлі да людзей і спыталіся, якія ў іх праблемы. Мы разам з імі сфармулявалі гэтыя пытанні».

«Нас шмат. Гэтыя людзі, якія маюць ідэі для лепшага развіцця, жадаюць нашай краіне толькі лепшага. Вось гэта новае. Мы аб'ядналіся, мы плануем аб'ядналіся большымі сіламі, каб наш голас быў пачуты».

«Я зраблю ўсё магчымае, каб наша ідэя перамагла, каб мы змаглі аб'яднаць людзей вакол ідэі мірных пераменаў».

Варта адзначыць, што на наступны дзень у інтэрнэце з'явіўся іранічны сайт-цытатнік Таццяны Караткевіч. Хто яго зрабіў — невядома. Варта прызнаць, што часам выходзіць вельмі смешна, паколькі фразы атрымліваюцца зусім недарэчныя.

На Таццяну Караткевіч як кандыдатку ў прэзідэнты паставілі «Гавары праўду», Партыя БНФ і сацыял-дэмакраты. А вось яшчэ адзін іхні хаўруснік па «Народным рэферэндуме» — рух «За Свабоду» — вырашыў не падтрымліваць нікога з імаверных кандыдатаў, калі не будзе адзінага.

«Калі параўнаць рэсурсы арганізацый, якія падтрымліваюць Караткевіч, з рэсурсамі іншых прэтэндэнтаў, а таксама патэнцыйныя мэтавыя групы Караткевіч і іншых, то стане ясна, што адзіным кандыдатам, які збярэ 100 тысяч подпісаў, будзе Караткевіч», — такую думку на апошнім сойме партыі агучыў старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч.

**ЗП**

**Хто яшчэ дэкларуе жаданне вылучыцца ў прэзідэнты?**

Анатоль Лябедзька, старшыня АГП

Уладзімір Някляеў, паэт, былы лідар кампаніі «Гавары праўду»

Сяргей Гайдукевіч, лідар праўладнай Ліберальна-дэмакратычнай партыі

Алена Анісім, мовазнаўца, намесніца старшыні ТБМ

Сяргей Калякін, лідар посткамуністаў са «Справядлівага свету»

Аляксандр Мех, грамадскі актывіст з Кобрына

Юрый Шульган, беспрацоўны, якога падтрымлівае партыя «Зялёныя»

## Рада бяспекі праверыць заробкі дырэктараў прыватных прадпрыемстваў

Пра гэта заявіў дзяржаўны сакратар Рады бяспекі Беларусі Аляксандр Мяжуеў на пасяджэнні Мінаблвыканкама, дзе разглядаліся вынікі сацыяльна-эканамічнага развіцця рэгіёна ў першым квартале 2015 года.

Па словах Мяжуева, асобныя кіраўнікі прадпрыемстваў не займаюцца планаваннем сваёй дзейнасці, з-за чаго ўвесь час сутыкаюцца з праблемамі.

Ён звярнуў увагу і на іншыя трывожныя выпадкі. «Сярэдні заробак на прадпрыемстве і прадукцыйнасць працы падае, працоўны тыдзень скарачаецца, а заробак дырэктара і яго намеснікаў расце. Заробак дырэктара ў разы большы, чым старшыні райвыканкама. Папярэджваю і прыватны сектар таксама — такія выпадкі будуць праверaныя», — сказаў дзяржсакратар.

**Паводле БелТА**

# Сяргей Богдан: **Беларусь можа мадэрнізаваць пакістанскія танкі**

Пра нядаўні візіт Аляксандра Лукашэнкі ў Пакістан мы пагутарылі са старшым аналітыкам Цэнтра Астрагорскага Сяргеем Богданам, які сам некалькі разоў бываў у гэтай краіне.

**«Наша Ніва»: Што мог шукаць Аляксандр Лукашэнка ў Пакістане? Якія ў нас там ёсць інтарэсы?**

**Сяргей Богдан:** Гэта спроба закрыць адну з апошніх «белых плямаў» на сусветнай мапе, якую ёсць яшчэ сэнс закрываць, каб гэта мела эканамічны эфект. «Незакрытых» краін засталося мала — мо яшчэ якая Нігерыя ці Эфіопія. Не кожная краіна можа прапанаваць Беларусі сур'ёзныя перспектывы — тыя ж кантакты з Зімбабве вялікага сэнсу не мелі.

У Пакістане ж ёсць велізарны рынак. Там ёсць таксама і нашы распрацоўкі, як у цывільнай вытворчасці, гэтак і ў вайсковай. Як бы смешна ні было, але гэта спроба надаць імпульс беларуска-індыйскім адносінам. Бо ёсць магчымасць сыграць на супярэчнасцях, што існуюць паміж Індыяй і Пакістанам. І гэта нават працуе. Летась Індыя ні з пушчы ні з поля выдзеліла нейкія падарункі беларускаму войску. У апошнія гады адносіны паміж Беларуссю і Індыяй дынамізмам не вылучаліся.



Пакістанец на трактары «Беларус».

Ёсць канкрэтныя напрацоўкі паміж Мінскам і Ісламабадам у вайсковай галіне. Апошнія паўтара года маюць месца інтэнсіўныя кантакты паміж Беларуссю і Пакістанам па вайсковай лініі. Летась у Мінск прыязджаў міністр абароны Пакістана. Хутчэй за ўсё тут вымалёўваецца нейкі кантракт. Які менавіта, сказаць цяжка. Але выкажу меркаванне, што гэта можа быць мадэрнізацыя пакістанскай бранятэхнікі.

Тут ёсць такі аспект: у 1990-я украінцы спрычыніліся да велізарнага праекта па пастаўцы і мадэрнізацыі танкаў Т-80 для Пакістана. Харкаўскі завод імя Малышава фактычна ўсю другую палову 90-х працаваў на гэты кантракт. Прайшло шмат часу, неабходна нешта абнавіць, адрамантаваць, палепшыць. За кантракт на гэта могуць змагацца расейцы, украінцы і беларусы.

Рабіць там нейкія іншыя рэчы — малаймаверна. Бо авіяцыя там амерыканская або кітайская, з узбраеннямі для сухапутных войскаў пакістанцы і самі дадуць рады, караблі ж беларусы пакуль не будуюць.

**«НН»: Пакістан з'яўляецца ядзернай дзяржавай. Супрацоўніцтва ў гэтым кірунку магчымае?**

**СБ:** Думаю, не. Пакістан вельмі ўмоўна ядзерная дзяржава. У свой час, дзякуючы энтузіязму пакістанскага нацыяналіста Абдул Кадыр Хана, змаглі скрасці ядзерныя распрацоўкі ў Нідэрландаў. Ён на той момант нават не меў сувязі з пакістанскім урадам. Проста хацеў абараніць сваю краіну ад пагрозы «індыйскай навалы». Але Пакістан не мае сваіх носьбітаў. Ён можа толькі ракетамі блізкага радыуса дзеяння пагражаць памежным індыйскім гарадам. Тэхналогіямі яны не валодаюць, таму я не бачу, што мы маглі рабіць супольна з Пакістанам у гэтым пытанні.

**«НН»: А трактары свае можам прадаваць у Пакістан?**

**СБ:** Канечне. Можам і павінны. Там вельмі вялікі рынак, які не разбэшчаны. На фоне таго мора кітайскай прадукцыі, якая там прадаецца, нашы вырабы будуць вылучацца ў добры бок. Калі пасол Беларусі ў Францыі Павел Латушка кажа, што ў трактары не адчыняюцца дзверы... Гэта так з Францыі глядзець можна, а ў Пакістане ўсё бачыцца па-іншаму. Там шчасце, калі гэты трактар рухаецца.

**«НН»: За апошні год наша МЗС адкрыла пасольствы ў Пакістане, Эквадоры, Манголіі, Аўстраліі, Катары. Усё гэта даволі экзатычныя краіны, такія крокі апраўдваюць сябе?**

**СБ:** Пасольствы адкрываюцца з разлікам на магчымасць экспарту ў гэтыя краіны. Глядзяць на тое, наколькі вялікае станоўчае сальда можна зрабіць у гандлі. Нам цікава прадаць туды як мага больш і як мага менш купляць. Задача стаіць закрыць аграмадную дзірку адмоўнага гандлёвага балансу.

З Эквадорам ёсць спадзяванне паўтарыць у нейкіх маштабах тое, што было з Венесуэлай.

Па Манголіі разлік на тое, што гэтая краіна была цясней няма куды звязаная з Савецкім Саюзам. Там ёсць пэўныя кантакты, там ведаюць нашу тэхніку. Краіна стабільная, ёсць шанцы атрымаць ад іх грошы. Транспартна яна звязаная з Расіяй. Вельмі проста туды пастаўляць.

Катар? Там іншы разлік. Туды шмат не прадасі. А атрымаць грошы можна, бо ў Катара нічога няма, апроч грошай. Насамрэч, крэн у бок Захаду, які ёсць фактам, ён мае месца і ў дачыненнях з Блізкім Усходам. У нас ніколі не было ніякіх кантактаў з Саудаўскай Аравіяй, а ў пачатку мая заснавалі камісію па супрацоўніцтве. Катар і Саудаўская Аравія — гэта цэнтры арабскай рэакцыі, празаходнія, кансерватыўныя краіны. Можна параўнаць з тым, як у 90-я Беларусь была сябрам іх поўных антыподаў — радыкальных, нацыяналістычных, ісламісцкіх, рэвалюцыйных рэжымаў — Лівія, Сірыя, Ірак, Іран. Сёння мы фактычна ні з кім з іх сябрамі не з'яўляемся.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**



**Сяргей Богдан**

Нар. у 1982 у Маладзечне. Магістр паліталогіі. Галіны экспертызы: бяспека, Блізкі Усход, Іран, Цэнтральная Азія. Цяпер працуе ў Свабодным універсітэце Берліна.

# Юрый Чыж дабудоўвае новыя рэзідэнцыі. Плошчай 1335 метраў!

Сям'я мільянера атрымала **тры суседнія ўчасткі** пад Лагойскам.

Самы багаты беларускі бізнэсмен Юрый Чыж заканчвае чарговую будоўлю. На гэты раз гаворка не пра шматпавярховікі ў Мінску, а пра ягонае асабістае жыллё. Чыж ужо мае катэдж у сталічных Драздах, самым прэстыжным квартале Беларусі, але цяпер вырашыў мець і маёнтак за межамі Мінска. Ягоны новы дом знаходзіцца каля Лагойска.

Катэджны пасёлак «Лагожаск» — праект кампаніі «Трайпл», якая належыць самому Юрыю Чыжу. У сярэдзіне 2000-х быў створаны гарналыжны комплекс «Лагойск», той адкрыўся 10 гадоў таму. А пасля Чыж вырашыў пабудаваць жылыя дамы каля яго.


Новы катэдж мільянера.



**Юрый Чыж**

Нар. у 1963 у вёсцы Сабалі Бярозаўскага раёна. Закончыў БНТУ. Майстар спорту СССР па грэка-рымскай барацьбе.

Фенаменальна паспяховы бізнэсмен. Уласнік рознагалінавай імперыі «Трайпл», сярод ягоных бізнэс-інтарэсаў нафтаперапрацоўка, будаўніцтва, транспартныя паслугі, сельская гаспадарка, выраб будматэрыялаў, гандаль харчаваннем, адзеннем і аўто. Валодае рэстаранамі, клубамі і футбольнай камандай «Дынама» (Мінск).

Займае 1-е месца ў рэйтынгу самых паспяховых і ўплывовых беларускіх бізнэсменаў. Трапіў пад санкцыі Еўрасаюза як «кашалёк Лукашэнкі».

Жанаты, мае траіх дзяцей.

Кліентам прапаноўваліся гатовыя катэджы па $420 тысяч. Попытам яны не карысталіся, таму Чыж стаў прадаваць наўпрост зямлю, па $120 тысяч за надзел.

Але і па такой бізнэс-схеме «Лагожаск» не прынёс чаканага прыбытку. Паводле дадзеных забудоўшчыка, дагэтуль стаяць непрададзенымі паўтара дзясятка ўчасткаў.

Не прападаць жа дабру, вырашыў Юрый Чыж і ўзяў некалькі надзелаў сабе. 8 жніўня 2014 года Лагойскі сельскі выканаўчы камітэт прыняў рашэнне перадаць у прыватную ўласнасць два ўчасткі па 25 сотак. Адзін запісалі на самога мільянера, другі — на ягоную жонку Святлану.

На сайце «Лагожаска» пазначана, што гэтыя надзелы будуць забудоўвацца па «індывідуальным праекце». Зрэшты, вонкава катэджы не вылучаюцца сярод суседніх дамоў. Архітэктурная асаблівасць пасёлка ў тым, што першыя паверхі абліцаваныя каменем, а другія — дрэвам.


Каля дома Святланы Чыж зальюць басейн.

У новым доме Чыжа два паверхі, падвал і мансарда. Агульная плошча катэджа велізарная, ажно 875 м². У двары запланавана лазня.

Дом, запісаны на жонку, трохі меншы, каля 560 м². Але, паколькі збудаванне стаіць на схіле гары, можна налічыць тры паверхі. Побач з домам будуюць летнюю кухню, каля яе — адкрыты басейн.

Абодва катэджы будуць закрытыя ад суседзяў высокім драўляным плотам.

А праз пару месяцаў было вырашана прыдбаць яшчэ адзін участак.

Ён быў афармлены на дачку Таццяну. Паводле дакументаў, дзяўчына арандавала зямлю на 10 гадоў. За свае 25 сотак яна будзе штогод плаціць Лагойскаму сельвыканкаму па 20 тысяч рублёў.

А сам катэдж будуе ў іпатэку, афармленую ў бацькавым «Трайпле». Каб разлічыцца, Таццяна павінна аддаць каля 650 мільёнаў рублёў (каля $60 тысяч на дзень падпісання дамовы). Пакуль што будаўнікі толькі заліваюць падмурак у яе будучым доме.

Усе тры дамы Чыжоў знаходзяцца ў своеасаблівым тупіку вуліцы Азёрнай, вакол толькі дробны лясок, а за ім — гарналыжны курорт.

**Ягор Марціновіч, фоты Сяргея Гудзіліна**


Дом у Зацані цяпер належыць старэйшым дзецям Чыжа.

**Мінскія маёнткі Чыжоў**

Як асоба, набліжаная да Аляксандра Лукашэнкі, Юрый Чыж у сярэдзіне 2000-х атрымаў магчымасць паставіць катэдж у Драздах, самым элітным квартале краіны. Тут яму належыць двухпавярховы дом плошчай 431 м².

Але пільнай патрэбы ў новым жытле мільянер не меў. У 2003 годзе ён атрымаў 25 сотак у сталічным раёне Зацань, у ахоўнай зоне водазабора «Навінкі». Там была пабудаваная вялікая сядзіба, якую Чыж з цягам часу падзяліў між старэйшымі дзецьмі.

Нарэшце, у «трайплаўскім» гмаху, які навіс над Траецкім прадмесцем, Святлана Чыж мае пяціпакаёўку плошчай каля 280 м².



**Святлана Чыж**

Нарадзілася ў 1966. У шлюбе з Юрыем Чыжом больш за 20 гадоў. Калі дзеці падраслі, паспрабавала сябе ў бізнэсе. Яна адкрыла ў Мінску элітны аздараўленчы клуб EVO.

**Трое дзяцей**

Старэйшы сын мільянера, Сяргей, нарадзіўся ў 1988 годзе. У 16 гадоў пераехаў у Лондан. Тут ён скончыў школу, а пасля вучыўся ў Лонданскім і Оксфардскім універсітэтах. Вярнуўшыся на радзіму, Сяргей стаў працаваць у структуры гіпермаркетаў «Прастор», потым увайшоў у назіральную раду Мінскага завода пеністых вінаў як прадстаўнік «Трайпла».

Дачцэ Таццяне 24 гады, яна атрымала адукацыю ў Швейцарыі, а цяпер занялася рэстаранным і гатэльным бізнэсам бацькі.

Малодшаму сыну Уладзіміру 19 гадоў, ён займаецца барацьбой, як і тата.

**Прыватны дом-царква**

Адзін з суседніх з Чыжамі дамоў у «Лагожаску» зарэгістраваны на Кірыла Вахрамеева (мірское імя мітрапаліта Філарэта). Ён набыў закансерваваную будоўлю па льготнай цане, усяго за $25 тысяч, і пабудаваў катэдж-царкву.

Яшчэ адзін дом Юрый Чыж наўпрост падарыў Беларускай праваслаўнай царкве.

# Топ-20 самых прыбытковых кампаній краіны

Найбольш зарабляюць «Беларуськалій», банкі і «Трайпл».

Міністэрства фінансаў апублікавала фінансавыя справаздачы адкрытых акцыянерных таварыстваў краіны за 2014 год. Апроч таго, інфармацыю пра сваю фінансавую сітуацыю прадаставілі кампаніі, якія выпускалі аблігацыі. Нарэшце Нацбанк публікуе справаздачы банкаў краіны.

На падставе гэтых звестак «Наша Ніва» склала топ-20 самых прыбытковых кампаній з адкрытай справаздачнасцю.

Для зручнасці ўспрымання лічбаў сумы пераведзеныя ў мільёны даляраў па леташнім сярэднім курсе.

«Беларуськалій» зноў стаў самай прыбытковай кампаніяй краіны. У 2013 годзе праз скандал на калійным рынку салігорская кампанія адкацілася на трэцяе месца, аднак цяпер прыбытак вырас у 4,5 раза.

Гэта дазволіла абысці нафтаперапрацоўчыя заводы ў Мазыры і Наваполацку. Дарэчы, іх вынік працы таксама істотна палепшаў за год.

«Банк развіцця Беларусі» на чале з Сяргеем Румасам — установа, праз якую праводзяцца бюджэтныя грошы на дзяржаўныя праграмы. Фінансісту ўдаецца дэманстраваць добрыя лічбы год за годам.

| № | Кампанія | Прыбытак |
|---|---|---|
| 1 | Беларуськалій | 696,8 |
| 2 | Мазырскі НПЗ | 317,9 |
| 3 | Нафтан | 193,2 |
| 4 | Банк развіцця Беларусі | 163,2 |
| 5 | Беларусбанк | 162,9 |
| 6 | Еўрагандаль (Еўраопт) | 125 (па выніках трох кварталаў) |
| 7 | Белаграпрамбанк | 114,4 |
| 8 | Прыёрбанк | 92,8 |
| 9 | БПС-Сбербанк | 88,7 |
| 10 | Белгазпрамбанк | 75,1 |
| 11 | Трайпл | 64,5 |
| 12 | Мінскэнерга | 58,2 |
| 13 | Гродзенская тытунёвая фабрыка «Нёман» | 57,9 |
| 14 | Гомельтранснафта «Дружба» | 55,8 |
| 15 | Банк БелВЭБ | 49,5 |
| 16 | Савушкаў прадукт | 40,8 |
| 17 | Віцебскэнерга | 37,7 |
| 18 | Белінвестбанк | 36,3 |
| 19 | МАПІД | 35 |
| 20-21 | Брэстэнерга / Гомельэнерга | 33,2 / 31,9 |

Лічбы ўказаныя ў мільёнах даляраў.

| № | Кампанія | Страты |
|---|---|---|
| 1 | МАЗ | -153 |
| 2 | МТЗ | -90,4 |
| 3 | Атлант | -80,6 |
| 4 | БМЗ | -63,5 |
| 5 | Гомсельмаш | -45,7 |
| 6 | Гомельшкло | -25,6 |
| 7 | БелВітуніфарм | -23,8 |
| 8 | Светлагорскі ЦКК | -22 |
| 9 | Барысаўскі мясакамбінат | -20,8 |
| 10 | Слуцкі сыраробны камбінат | -18,8 |

Лічбы ўказаныя ў мільёнах даляраў.

Услед ідуць адзін за адным адразу некалькі банкаў. Наперадзе два дзяржаўныя, аднак і прыватнікі не адстаюць. Фактычна, аўстрыйскі «Прыёрбанк» можна лічыць самай прыбытковай недзяржаўнай кампаніяй з адкрытай справаздачнасцю.

Гэтае званне мусіў мець «Еўрагандаль» (гандлёвая сетка «Еўраопт»). За першыя тры кварталы прыбытак сеткі крамаў перавышаў $125 мільёнаў, прычым лічбы дэманстравалі пазітыўную тэндэнцыю. Аднак у чацвёртым квартале кампанія не была эмітэнтам аблігацый, таму і не давала справаздачнасць. Значыцца, у спісе яе зусім няма.

Сярод прыватных кампаній, якія прынеслі вялікі даход сваім уласнікам, разгалінаваная бізнэс-імперыя Юрыя Чыжа і малочная вытворчасць Аляксандра Машэнскага. Іхнія «Трайпл» і «Савушкаў прадукт» на дваіх зарабілі больш за $100 мільёнаў.

На адваротным баку рэйтынга — прамысловыя гіганты. МАЗ, МТЗ і «Атлант» разам прынеслі катастрафічныя $324 мільёны чыстых стратаў.

Сярод прыватнікаў найгоршая сітуацыя ў замежнай «Маскоўскай інвестыцыйнай будаўнічай кампаніі» (-$10,6 мільёна).

**Ягор Марціновіч**

**Сем цікавых фактаў з справаздач беларускіх кампаній**

- Абласныя энергетычныя кампаніі Беларусі («Мінскэнерга», «Брэстэнерга» і іншыя) атрымалі агулам прыбытак $203 мільёны.
- Прыбытак «Белавія» за год — $18,43 мільёна.
- Беларуская чыгунка зарабіла $6,39 мільёна, а яе даччыная кампанія «Дарорс», якая займаецца гандлем, яшчэ $6,94 мільёна.
- Некалькі дзясяткаў прадпрыемстваў спрацавалі ў «нуль». Сярод іх дрэваапрацоўчыя фабрыкі ў Івацэвічах, Рэчыцы, Мастах, Барысаве, Бабруйску. Насамрэч яны мелі мінусавыя паказчыкі, аднак атрымалі «іншыя даходы», якія раўнютка кампенсавалі страты.
- Для мільянера Аляксандра Шакуціна, які працаўладкаваў памочнікаў прэзідэнта Ткачова і Пяткевіч, год быў няўдалым. Кіруючая кампанія холдынга «Амкадор» прынесла $9,25 мільёна чыстых стратаў, астатнія прадпрыемствы таксама: «Амкадор-Белвар» (-$1,14 мільёна), «Амкадор-Унімод» (-$877 тысяч), «Спамаш» (-$282 тысячы). У плюсе застаўся толькі «Амкадор-Дзяржынск», і толькі ўсяго на $5 тысяч.
- Кампанія «Юнівест-М» мільянера Анатоля Тарнаўскага, які трапляў у «чорны спіс» Еўрасаюза, страціла за год $5,23 мільёна.
- Самая вялікая колькасць работнікаў на МТЗ і МАЗе — па 19 тысяч чалавек.



# Як беларусы зараблялі на расійскім эмбарга

Статыстыка дэманструе дзіўныя несупадзенні.

З жніўня 2014 года ў Расіі дзейнічае забарона на імпарт харчавання з Еўрасаюза, ЗША, Канады, Аўстраліі і Нарвегіі. У «чорны спіс» патрапілі мясныя і малочныя прадукты, рыба, гародніна і садавіна. Па ацэнках экспертаў, агульны гадавы аб'ём імпарту, які трапіў пад санкцыі, складае $9 мільярдаў.

Расія не можа сваімі сіламі задаволіць унутраны попыт на харчаванне, таму мясцовыя прадаўцы шукаюць шляхі абыходу эмбарга. І беларусы гатовыя ім у гэтым дапамагчы.

Блогер iva-dim знайшоў цікавыя несупадзенні, параўнаўшы дадзеныя беларускай статыстыкі і нашых гандлёвых партнёраў.

Возьмем яблыкі. У 2013 годзе Беларусь імпартавала 181 тысяч тон гэтага тавару. А летась апетыты «раптоўна» выраслі. Імпарт яблыкаў павялічыўся да 415 тысяч тон.

Асноўнымі пастаўшчыкамі імпартных яблыкаў для Беларусі традыцыйна былі палякі, але іхняя прадукцыя стала для Расіі забароненай. Затое яблыкі з краінаў за межамі Еўрасаюза расейцы гатовыя купляць неабмежавана. Беларускія пастаўшчыкі адрэагавалі імгненна.

Паводле дадзеных Белстата, было набыта яблыкаў з Сербіі на $14,4 мільёна. Вось толькі тамтэйшая статыстыка налічыла паставак толькі на $1,4 мільёна.

Падобная сітуацыя з Чылі. Беларусы закупілі там мясцовых яблыкаў на $9,1 мільёна, вось толькі чылійцы... не прадавалі іх у нашу краіну.

Македонія — таксама выгадны варыянт. Да 2014 года яблыкі з гэтай краіны не пастаўляліся ў Беларусь, затое летась прыехала прадукцыі ажно на $6,4 мільёна. Але македонская статыстыка пра гэта не згадваецца.

Расейцы выкарыстоўваюць перавагі краін за межамі Еўрасаюза і наўпрост, без беларускіх пасярэднікаў. З той самай Македоніі выехала яблыкаў на $1,4 мільёна, а прыехала — на $4,1 мільёна.

Расія нібыта спрабуе абмежаваць дзіўныя пастаўкі. Месяц таму Рассельгаснагляд абмежаваў імпарт яблыкаў з «дазволенай» Сербіі. «Пад выглядам сербскіх яблыкаў кампаніі масава завозяць рээкспартныя фрукты з Еўрасаюза», — паскардзіліся чыноўнікі.

Аднак схема працягвае працаваць. Прымітыўна, але эфектыўна.

**ЯМ**

# «Правая рука» Прохарава ўцёк з-пад хатняга арышту ў Беларусь?

Максіма Фінскага нібыта затрымалі з фальшывым пашпартам у «Мінск-2».

Максім Фінскі, асноўны партнёр расійскага мільярдэра Міхаіла Прохарава, магчыма, знаходзіцца ў ізалятары КДБ Беларусі.

Супраць Фінскага была заведзеная крымінальная справа за махлярства, здзейсненае групай асобаў у асабліва буйным памеры. Спачатку ён сядзеў у следчым ізалятары, аднак пасля перабраўся пад хатні арышт. Бізнэсмен зрэзаў бранзалет, які фіксаваў ягонае месцазнаходжанне, і нібыта выехаў на аўтамабілі службы бяспекі Прохарва ў Беларусь.

Праз адсутнасць мяжы між краінамі Фінскаму ўдалося дабрацца да аэрапорта «Мінск-2», дзе ён спрабаваў зарэгістравацца на рэйс у Франкфурт, каб пасля даляцець да Маямі. Памежнікам ён падаў фальшывы пашпарт на імя нейкага Уласава.

Дзе цяпер знаходзіцца бізнэсмен? Некаторыя расійскія СМІ запэўніваюць, што Фінскі ўжо перададзены расійскім праваахоўнікам. Іншыя медыя адзначаюць, што ён па-ранейшаму знаходзіцца ў ізалятары КДБ Беларусі.

А вось беларускія сілавікі — КДБ, Дзяржаўны памежны камітэт і Следчы камітэт — адхрысціліся ад Фінскага. Такога грамадзяніна ніхто не затрымліваў, тлумачаць яны.

**ЯМ**

**Міхаіл Прохараў**

У спісе самых багатых бізнэсменаў Расіі займае 10-е месца, маючы $9,9 мільярда. Кандыдат у прэзідэнты Расіі ў 2012-м (заняў 3-е месца). Мае актывы ў алюмініевай кампаніі «Русал», а таксама ва «Уралкаліі». Акцый калійнай кампаніі ён купіў за $5,15 мільярда ў іншага мільярдэра, Сулеймана Керымава, пасля таго як той разарваў адносіны з «Беларуськаліем» і рассварыўся з Аляксандрам Лукашэнкам.



**Максім Фінскі**

У 2000—2008 працаваў дырэктарам па геолагаразведцы ў «Нарыльскім нікелі», найбуйнейшым акцыянерам якога быў Міхаіл Прохараў. Пасля змены ўласніка ў кампаніі перайшоў у «Анэксім» таго ж Прохарава, забраўшы з сабой ліцэнзіі на радовішчы. Багацце Фінскага ацэньвалася ў 2011 годзе ў $360 мільёнаў.



# У Гродне пабудуюць найбуйнейшы гандлёвы цэнтр

Уласнік панчошнай кампаніі «Контэ Спа» Валянцін Байко збіраецца пабудаваць у Гродне гандлёва-забаўляльны цэнтр «Трыніці» («Тройца»), які стане найбуйнейшым у краіне. Аб'ект ацэньваецца ў 66 мільёнаў еўра, будаваць яго будуць палякі.

Праект прадугледжвае больш за 60 тысяч м² гандлёвых плошчаў і 5 тысяч м² пад офісы. Апроч іх, з'явяцца восем кіназалаў, лядовая арэна і дзіцячы гульнявы цэнтр. Гэта першы ў Беларусі аб'ект такога кшталту за межамі Мінска.

Мяркуецца, што «Трыніці» адкрыецца ў 2017 годзе на скрыжаванні праспектаў Янкі Купалы і Леаніда Кляцкова.

**ЯМ**

# «Ты адэсіт, Мішка, а гэта значыць…»

**Новае за тыдзень** ва Украіне.

Сітуацыя на фронце ва Украіне, нягледзячы на «перамір'е», паранейшаму напружаная. Прэсцэнтр АТА ледзь не штодзень інфармуе пра абстрэлы пазіцый украінскага войска і колькасць параненых. У сваю чаргу рапартуюць і «новарасійскія баевікі», заяўляючы аб абстрэлах Данецка.

**Саакашвілі — губернатар Адэсы**

Але галоўнай інфармацыяй мінулага тыдня з Украіны стала прызначэнне былога прэзідэнта Грузіі Міхала Саакашвілі губернатарам Адэскай вобласці. Парашэнка чакае ад свайго экс-калегі паўтору «грузінскага цуду».

«Пры Саакашвілі Грузія стала больш празрыстай і эфектыўнай, а дзякуючы антыкарупцыйнай рэформе — і больш прывабнай для замежных інвестараў краінай, здолела забяспечыць справядлівасць судоў і павысіць узровень абароненасці грамадзян. Такой я хачу бачыць і Украіну, такой я хачу бачыць Адэсу», — адзначыў Пятро Парашэнка, прадстаўляючы новага губернатара, які раней, дарэчы, займаў пасаду старшыні ўкраінскай Рады рэформ пры прэзідэнце. Пры гэтым сам Міхал Саакашвілі запэўніў, што паспрабуе не падвесці ўкраінскі народ, і ў свае першыя працоўныя дні абвесціў аб «аптымізацыі» і скарачэнні чыноўніцкага апарату ў Адэсе, у выніку чаго сэканоміцца блізу 4 млн грывень штогод. Таксама ў планах новага губернатара — зрабіць Адэсу і вобласць буйным турыстычным цэнтрам. Як было зроблена ў Батумі.

Іншае значнае рашэнне Саакашвілі — правесці праверку міліцыі ў чэрвені.



Пятро Парашэнка прадставіў адэсітам Саакашвілі (у цэнтры) на чатырох мовах: украінскай, рускай, балгарскай і румынскай.



Расійскія добраахвотнікі, што ваююць на баку Украіны, прыйшлі ў шпіталь наведаць затрыманага гэрэушніка.

На новую працу Саакашвілі даволі агрэсіўна адрэагавалі ў Расіі, у прыватнасці прэм'ер РФ Мядзведзеў у сваім твітары назваў гэтае прызначэнне «шапіто-шоу», нават выказаў спачуванне на ламайнай украінскай мове: «Нещасна Украіна». Аднак у самой Грузіі, дзе на былога прэзідэнта заведзена крымінальная справа, заявілі, што кадравае рашэнне Парашэнкі не сапсуе адносін паміж дзвюма краінамі.

**Затрыманыя гэрэушнікі**

Яшчэ адна тэма, што мусоліцца ва ўкраінскіх і расійскіх СМІ, — гэта працяг гісторыі з затрыманымі спецназаўцамі ГРУ, якія на Радзіме раптам аказаліся нікому не патрэбныя.

«Ніколі такога не было, каб я маці тэлефанаваў, а яна слухаўку не здымала. Да жонкі заўсёды можна было дазваніцца, нават ноччу, у дзве гадзіны ночы, заўсёды ведаў, што яна возьме трубку. А цяпер... Вось напачатку мая, 3-га, гаварыў з маці, віншаваў яе з Днём нараджэння. А сёння якога? 27-га ўжо, у бацькі юбілей, 60 гадоў. Не патэлефанаваць нават. Дзяржава непрыгожа робіць, сваякоў да гэтай гісторыі прыцягвае», — выліў душу карэспандэнту «Новай газеты» расійскі спецназавец Аляксандраў і адзначыў: у сітуацыі вінаваты рэжым, «пуцінскі рэжым».

Таксама, паводле Аляксандрава, калі яго з саслужыўцам наведаў расійскі консул Аляксей Грубы, яму задалі пытанне аб прычынах нечаканага звальнення з шэрагаў спецназа, але консул гэта ніяк не пракаментаваў.

Сумная гісторыя з расійскімі спецназаўцамі, дарэчы, нарадзіла шмат жартаў у інтэрнэце. У прыватнасці, пашыраюцца карцінкі і лозунгі кшталту «рускія здаюцца» і «рускія сваіх кідаюць».

Арцём Гарбацэвіч

# ФІФА: скандалы, інтрыгі, расследаванні

29 мая 79-гадовы Ёзэф Блатэр быў **пераабраны на пяты тэрмін** у якасці прэзідэнта ФІФА.

Як бы, напрыклад, маглі адбывацца якія-небудзь прэзідэнцкія выбары, калі за два дні да іх амаль усіх міністраў арыштавалі ў сувязі з карупцыйнымі справамі, а большасць з іх адразу б прызналіся ў сваіх цёмных дзеяннях? Любы адэкватны дзейны прэзідэнт адразу зняў бы сваю кандыдатуру, а калі б і не зрабіў гэтага, дык колькасць галасоў за яго проста скацілася б да статыстычнай хібнасці. Але толькі не ў ФІФА. Тут у іх, як кажуць, свая атмасфера.

Раніцай 27 мая Федэральная паліцыя Швейцарыі арыштавала ў Цюрыху дзевяць чыноўнікаў ФІФА. Арыштаваныя абвінавачваюцца ў ЗША ў адмыванні грошай, вымагальніцтве і махлярстве з выкарыстаннем электронных пераводаў. Сярод арыштаваных — віцэ-прэзідэнты ФІФА Джэфры Уэб і Эўхеніа Фігерэда.

Улічваючы гэтыя факты, а таксама шматлікія абвінавачванні ФІФА ў карупцыйных схемах, некаторыя эксперты разлічвалі на тое, што дзейны кіраўнік арганізацыі Ёзэф Блатэр не будзе перавыбраны на пяты тэрмін. Альтэрнатывай яму лічыўся віцэ-прэзідэнт ФІФА і прэзідэнт

**Калі вярстаўся нумар**

**Ёзэф Блатэр абвесціў пра свой сыход з ФІФА**

«Я збяру пазачарговай кангрэс для выбараў новага прэзідэнта ФІФА. Я не буду ўдзельнічаць. Мне дарагія інтарэсы ФІФА. Таму я прыняў гэтае рашэнне», — заявіў Блатэр.




За бліжэйшыя чатыры гады Блатэр абяцае знайсці сабе пераемніка. Праўда, тое самае ён абяцаў і чатыры гады таму.

Федэрацыі футбола Заходняй Азіі іарданскі прынц Алі бін Аль-Хусэйн, якому 39 гадоў. Галоўны ягоны пасыл: я багаты чалавек, таму красці мне няма сэнсу.

Ягоную кандыдатуру амаль цалкам падтрымала УЕФА, у тым ліку і Беларуская федэрацыя футбола, дэлегатамі ад якой у Цюрых адправіліся тры Сяргеі: Румас, Сафар'ян і Ільіч. Гэтакая пазіцыя Беларусі бачыцца як частка пратэсту УЕФА супраць цяперашняга кіраўніцтва ФІФА. Дапамога, якую атрымлівае наша краіна ад УЕФА, значна большая, чым ад міжнароднай асацыяцыі.

А вось расейцы галасавалі за Блатэра, як і цалкам уся Афрыка, а таксама большая частка Азіі. Такі парадокс: Еўропа была за азіята, а Азія — за еўрапейца.

Чым незадаволеныя еўрапейцы? У першую чаргу, карупцыйнымі скандаламі. Яны сур'ёзна ўдарылі па рэпутацыі не толькі ФІФА, але і футбола ў цэлым. Па-другое, ёсць вялікая незадаволенасць выбарам месцаў правядзення чэмпіянатаў свету 2018 і 2022, якія пройдуць адпаведна ў Расіі і Катары. Мала таго, што невядома, ці справядліва гэтыя краіны былі абраныя (больш за ўсё прэтэндавала Англія, якая таксама падавала заяўку на 2018 год), дык чэмпіянат 2022 года ФІФА плануе праводзіць зімой — летам тэмпература ў Катары перавышае 40 градусаў па Цэльсію: будзе проста немагчыма гуляць у футбол.

Ведаючы, як праходзіць арганізацыя падобных мерапрыемстваў у Расіі, для ФІФА гэта проста залатая жыла. Падобная сітуацыя і з Катарам. Асабліва цікава гэтая сітуацыя будзе выглядаць, калі будзе даказана, што галасы выбаршчыкаў былі купленыя. Нездарма сам Блатэр падчас сваіх перавыбараў заявіў: «Чэмпіянат свету — гэта курка, якая нясе залатыя яйкі. Нам неабходна захаваць гэта, абараніць».

Але вернемся да саміх выбараў. Кожная краіна — член ФІФА, мае адзін голас. Менавіта таму і з'яўляюцца шматлікія паведамленні аб подкупе дэлегатаў, бо голас Гандураса роўны голасу 200-мільённай Бразіліі. Напрыклад, уся Афрыка мае 54 галасы — на 1 больш, чым у Еўропы. Хаця на апошнім чэмпіянаце свету па футболе ў фінальную частку трапіла ўсяго 5 афрыканскіх каманд, а еўрапейскіх — 13.

Але ўсё ж галасоў Еўропы, часткі Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі, некаторых краін Карыбскага басейна і Аўстраліі аказалася недастаткова, каб зрушыць Блатэра з пасады. У першым туры швейцарац набраў 133 галасы, а яго супернік — 73. Зменаў не адбылося. Дарэчы, да галасавання. У самым пачатку кангрэсу генеральны сакратар ФІФА Жэром Валько быў абавязаны праверыць, ці добра працуе сістэма электроннага галасавання. Пытанне было вельмі простым: «Хто дзейны чэмпіён свету?». Правільна адказалі 95%. То бок 5% дэлегатаў (прыкладна 10 чалавек) забыліся, што чэмпіён — Германія. Вось такія людзі бралі ўдзел у абранні кіраўніка ФІФА.

Пасля таго, як стала вядома, што Блатэр застаецца на сваёй пасадзе, панесліся навіны аб расколе ў ФІФА. Так, Англія можа байкатаваць чэмпіянат свету—2018, але толькі калі ёй удасца дамовіцца аб супольным байкоце з іншымі краінамі УЕФА. Далей з'явіліся звесткі, што УЕФА і краіны, якія незадаволеныя палітыкай Блатэра, могуць правесці свой, альтэрнатыўны чэмпіянат свету. Улічваючы тое, што на мундыялі звычайна першыя ролі граюць еўрапейскія і паўднёваамерыканскія каманды, можна перакананa заяўляць, што такое спаборніцтва можа быць як мінімум не горшым (а то і лепшым), чым ягоны класічны варыянт у правядзенні ФІФА. Думаю, што ад адсутнасці зборнай Камеруна ці Саудаўскай Аравіі спонсарская і глядацкая цікавасць да чэмпіянату не абваліцца.

Зміцер Міцкевіч

# Хто суправаджае Мацюшэўскага, Латушку і бізнэсменаў

**Топ вядомых** у дзелавых і прафесійных колах спадарожніц буйных чыноўнікаў і бізнэсменаў.

**Наталля Кандрацэнка**

Экс-кіраўнік «БПС-Сбербанка» і цяперашні першы віцэ-прэм'ер Васіль Мацюшэўскі не першы год вылучаецца сярод беларускіх банкіраў і чыноўнікаў выключна стылёвымі касцюмамі і аксесуарамі.

Магчымая крыніца яго гардэробнага натхнення і ўмення спалучаць складаны малюнак пінжака, гальштука і кашулі стала зразумелай, калі побач з ім пачала з'яўляцца прафесійная дызайнерка вопраткі, топ-менеджарка кампаніі *Deluxe Group*, салона ювелірных упрыгожванняў, гадзіннікаў і аксесуараў класа люкс Наталля Кандрацэнка.

Наталля рэпрэзентавала Беларусь на конкурсе «Місіс свету — 2003» і неаднаразова трапляла ў топы самых паспяховых і прыгожых людзей Мінска.

Першая жонка Мацюшэўскага была з прафесарскай сям'і. Алена Давыдзенка вучылася палітычнай эканоміі ў БДУ на курс раней за будучага віцэ-прэм'ера і банкіра. Яе бацька ў канцы 1990-х быў галоўным дарадцам у прэм'ер-міністра Сяргея Лінга. Цяпер Давыдзенка працуе на факультэце міжнародных адносін БДУ. Некалькі гадоў таму яна стала доктарам эканамічных навук.



Наталля Кандрацэнка.

**Інэса Захарэвіч**

Кіраўнік «Прыёрбанка» Сяргей Касцючэнка быў працяглы час жанаты з актрысай тэатра імя Горкага Аленай Унукавай. Яны пазнаёміліся ў тэатры, дзе Аленаззяла ў спектаклі «Ваўкі і авечкі». На сцэне яна спакушала героя Расціслава Янкоўскага — заўзятага халасцяка і жанчынаненавісніка.




Не стрымаўся і Сяргей Аляксандравіч, які адразу разгледзеў у Алене родную душу.

Іх гісторыю кахання тыражавала прэса. «Якія б піруэты ні выпісваў лёс за 14 гадоў іх адносін, сёння яны цвёрда ведаюць адно: яны разам і яны — сям'я, што б ні здарылася», — пісала «Комсомольская правда» ў 2012 годзе.

Зрэшты, ужо каля двух гадоў Касцючэнку бачаць у кампаніі Інэсы Захарэвіч.

Уладальніца дзвюх вышэйшых адукацый («генетыка і біятэхналогія» ў БДУ і «эканоміка і фінансы» ў БДЭУ) сваю кар'еру пачала з супрацоўніцтва з замежнымі кампаніямі ў сферы тавараў масавага спажывання. У 2003 перспектыўнага спецыяліста запрасілі на працу ў групу кампаній «Трайпл». Як пісаў часопіс «Дело», лідарскія якасці, працаздольнасць і прафесіяналізм дазволілі Інэсе Захарэвіч дасягнуць пастаўленых мэтаў. Асноўным яе праектам стала развіццё гандлёвай сеткі *ProStore*.

Кажуць, неўзабаве пасля таго, як Касцючэнка і Захарэвіч пачалі сустракацца, спадарожніца банкіра вымушана была пакінуць «Прастор» з-за таго, што сетка абслугоўвалася ў «Прыёрбанку».

**Аляксандра Мухаева**

Аляксандра Мухаева год таму выйшла замуж за аднаго з самых зайздросных халасцякоў краіны, пасла Беларусі ў Францыі Паўла Латушку. Да гэтага ўладальніца ступені MBA і некалькіх дыпломаў аб вышэйшай адукацыі, якая ведае англійскую, нямецкую і кітайскую мовы, зрабіла кар'еру ў кампаніі «БелДарЦяжТранс», якая спецыялізуецца на перавозках негабарытных і цяжкавагавых грузаў.


Аляксандра Мухаева.

Дарэчы, папярэдняя жонка Латушкі цяпер замужам за памочнікам прэзідэнта Максімам Рыжанковым.

**Ірына Цярэшчанка**

Шырокая вядомасць да дачкі ўласніка «Беліта-Вітэкс» Віктара Цярэшчанкі прыйшла пасля сарака. У гэты час Ірына Цярэшчанка стала спявачкай Ітэйрай і нарадзіла дачку. Бацькам дзіцяці аказаўся бізнэсмен Артур Фенюк. Ён развівае дэвелаперскі бізнэс у цэнтры Мінска.

Зрэшты, бізнес-заслуга Ірыны Цярэшчанка ў іншым: яна стварыла сетку салонаў прыгажосці пад назвай «Ітэйра», якая займаецца і дыстрыбуцыяй імпартнай касметыкі.


СЯРГЕЙ ГАПОН, KP.BY
Ірына Цярэшчанка.

**Наталля Васільева, Tut.by**

# У Брэсце аўтамабіліста пакаралі за налепку са свастыкай

Свастыка **адсутнічае ў спісе** дазволеных у Беларусі налепак на аўто.

Людміла з Брэста распавяла «Нашай Ніве» пра новы выпадак з непрыстойнай налепкай на аўто. У пачатку месяца яна выклікала міліцыю да аўтамабіля з велізарнай непрыстойнай налепкай са свастыкай і сярпом з молатам. Пазней яна пабачыла іншую машыну з падобнай налепкай меншага памеру.

Налепка прынесла ўладальніку адміністрацыйнае пакаранне. Але не за непрыстойную выяву, а за парушэнне Правілаў дарожнага руху.

Па словах Людмілы, яна пабачыла машыну з непрыстойнай налепкай (замест сярпа і молата на гэты раз была чырвоная зорка) пасля парада на Дзень Перамогі на вуліцы Абаронцаў Брэсцкай крэпасці. «Сорам проста нейкі, па гэтай вуліцы перакрылі рух на той час, даішнікаў чалавек дзесяць, і ніхто не бачыць?» — абураецца яна.

Праз два тыдні пасля таго, як жанчына накіравала запыт у ДАІ, яна атрымала адказ: згодна з правіламі дарожнага руху ўласнік аўто атрымаў адміністрацыйнае пакаранне. Паводле правіл, удзел у дарожным руху забаронены з любымі выявамі на аўто, акрамя асобна пералічаных інфармацыйных налепак.

«Але ж пытанні ў мяне засталіся: чаму не пакаралі за свастыку, гэта ж парушэнне закона супраць экстрэмізму?» — пытаецца Людміла.

**Аляксандр Арсёнаў**

## Магіла маці Лукашэнкі ўзятая пад ахову, яе забаронена фатаграфаваць

Маці Аляксандра Лукашэнкі Кацярыну Трафімаўну пахавалі 26 мая на могілках вёскі Хімы, што ў Аршанскім раёне Віцебскай вобласці. Яны непадалёк ад роднай вёскі кіраўніка дзяржавы — Александрыі-2, дзе Кацярына Трафімаўна пражыла амаль усё жыццё.

Магіла нябожчыцы — уся ў вянках.

Фотаздымкі магілы і саміх могілак давялося выдаліць. На гэтым настаялі двое мужчын, якія назваліся «прадстаўнікамі сям'і нябожчыцы». Сваю настойлівую просьбу яны патлумачылі нечаканнем родзічаў Кацярыны Трафімаўны, каб такія фотаздымкі з'яўляліся ў прэсе да сарака дзён па нябожчыцы.

На пахаванні «былі сваякі, суседзі, тыя, з кім яна працавала. Пахавалі яе з хрысціянскай пашанаю, — расказала аднавяскоўка Кацярыны Лукашэнка. — Шмат добрага пра яе казалі. Плакалі. Яна чэснай была працаўніцай. Рабіла цялятніцай, даяркай. Гэта цяпер усё механізавана, а тады ўсё ж рукамі даводзілася рабіць. Сына годнага выгадавала. Яна ім дужа ганарылася», — зазначыла жанчына.


Нядаўна на сялібе Лукашэнкаў з'явіліся новыя будынкі.

Усе, з кім давялося пагутарыць, адзначалі, што ў Мінск да сына яна не дужа хацела ехаць. «Паехала, калі ўжо яе не было ўжо сіл», — зазначыў яшчэ адзін суразмоўца.

«Жыла яна ў Александрыі-2. Домік іхны знеслі, які пабудавалі пасля пажару ў 1958 годзе. Калі пачалі ў Александрыі будаваць катэджы, то яна перабралася ў адзін з іх. На месцы знесенага старога дома пабудавалі новы», — кажа ён.

«Александрыю яна дужа любіла. Яна родам адсюль. Раней жа тут хутары адны былі. Потым людзей з хутароў аб'ядналі, і ўтварыўся такі пасёлак, у якім Кацярына Трафімаўна і жыла».

Пра смерць Кацярыны Трафімаўны Лукашэнка стала вядома 26 мая. У гэты ж дзень яе пахавалі. Пражыла маці кіраўніка беларускай дзяржавы 90 гадоў.

**Радыё «Свабода»**

# У Расіі падчас царкоўной службы неслі ікону з выявай Сталіна

28 мая на Прохараўскім полі ў Белгародскай вобласці (РФ) прайшла царкоўная служба з іконай «Маці Божая Дзяржаўная», на якой намаляваны Іосіф Сталін з савецкімі маршаламі вакол яго.

Як паведаміла адыёзная газета «Завтра» Аляксандра Праханава, набажэнства ўзначалілі афонскі іераманах Афінаген. Ікону зрабілі на замову Ізборскага клуба, старшынёй якога з'яўляецца Праханаў.

Абраз неслі і везлі на бранятэхніцы пры вялізнай колькасці людзей міма цэркваў, капліц, манументаў і помнікаў, прысвечаных буйной танкавай бітве 1943 года каля вёскі Прохараўка.

Падзея выклікала бурную рэакцыю ў СМІ. Белгародская мітраполія, каментуючы яе, паведамляе наступнае. «14 мая ў межах Белгародскай мітраполіі адбыўся пленум Саюза пісьменнікаў Расіі, удзел у якім браў пісьменнік, публіцыст і грамадскі дзеяч Аляксандр Праханаў. Аляксандр Андрэевіч унёс у залу пасяджэння выяву генералісімуса Сталіна ў атачэнні военачальнікаў, якую многія тут жа ахрысцілі «іконай», — паведамляецца на афіцыйным сайце мітраполіі. — І хоць карціна напісаная ў «іканапісным стылі», усё ж, па шэрагу прычын, абразом яна лічыцца не можа. Па-першае, ніхто з намаляваных на ёй гістарычных персанажаў не прылічаны Рускай праваслаўнай царквой да ліку святых. Па-другое, некаторыя з персанажаў на дадзенай карціне былі адкрытымі ганіцелямі Царквы.




Карціна, напісаная на замову Ізборскага клуба мастакамі з горада Рыбінска, з'яўляецца своеасаблівым маніфестам і ілюстрацыяй ідэй так званай «грамадзянскай рэлігіі», якая супрацьстаіць абвешчанай рэлігіі і праваслаўнай царкве.

Што ж тычыцца згаданага набажэнства, то памінальную літыю здзейсніў «афонскі іераманах Афінаген» (як яго прадстаўляюць), які з'яўляецца «кішэнным» іераманахам спадара Праханава і не належыць да кліру Белгародскай мітраполіі.

Дадзеная акцыя, праведзеная ў дні святкавання 70-годдзя Вялікай Перамогі на Трэцім ратным полі Расіі, не знайшла падтрымкі сярод удзельнікаў і гасцей урачыстасцяў, якія выказалі сваё здзіўленне і крыўду з нагоды навязвання ім псеўдарэлігійных поглядаў».

## Дома можна захоўваць не больш за 10 літраў замежнага алкаголю

У Гомелі заведзеная **справа супраць калекцыянера**.

У Беларусі дзейнічае норма, паводле якой захоўваць можна не больш за 10 літраў замежнага алкаголю без акцызных марак, якія сведчаць аб продажы напояў у Беларусі, на чалавека. Калі ты купіў у Беларусі і маеш акцызныя маркі і чэкі — то колькі хочаш. Але калі за мяжой куплена — то не. Беларускага ж алкаголю без чэкаў можна захоўваць не больш за 30 літраў (чытай артыкул 12.27 Адміністратыўнага кодэкса).

На няведанні гэтай нормы пагарэў доктар з Гомеля — апантаны калекцыянер спіртовых напояў. На яго «настукалі», і міліцыя з падатковай выявіла ў яго дома цэлы склад.

У сям'і ў яго тры чалавекі, таму дапушчальная да захоўвання колькасць літраў у яго засталася, а «178 бутэлек гарэлкі, віскі, рому, віна, бальзаму і каньяку мы канфіскавалі, акрамя таго калекцыянер аштрафаваны на 2 мільёны рублёў», — паведаміла kp.by намесніца начальніка інспекцыі МПЗ па Савецкім раёне Гомеля Таццяна Гюнтэр.

**Фотафакт**



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

**У Палацы мастацтваў прайшоў трэці беларускі фестываль татуіроўкі «Tattoo Fest — 2015».У творах майстроў тату выразна адсочваўся нацыянальны матыў — хто як яго разумеў. Хтосьці меў на плячы ці на грудзях «Пагоню», іншым больш была даспадобы выява Аляксандра Саладухі. На фота: твор заслаўскага татуіроўшчыка Сяргея Караля, які працуе з нацыянальнай тэматыкай.**

**Меркаванне**

## Жыць у сваё задавальненне — лёс плебеяў

Піша **Віталь Цыганкоў**.



Філасофія жыцця на сёння зводзіцца да некалькі простых лозунгаў: «трэба жыць у сваё задавальненне», «мы нікому нічога не павінны», «у мяне няма ніякіх аўтарытэтаў», «ніякіх абмежаванняў, рабі што хочаш». Рынак прапануе сотні кніг і «курсаў» на тэму, «як навучыцца любіць толькі сябе і сваё меркаванне», «як атрымаць ад жыцця ўсё без ахвяраў і намаганняў» і гэтак далей.

Я, каб вы разумелі, зусім не супраць усяго гэтага. Імкненне да індывідуальнага шчасця патрэбна, неаспрэчна і непераможна. Проста я супраць таго, каб «жыццё ў сваё задавальненне» называць найвышэйшым дасягненнем цывілізацыі ў выніку «смерці вялікіх ідэяў», вяршыняй памкненняў кожнага чалавечага індывіда, адзінай магчымай мадэллю паводзінаў.

На самай справе гэта, вядома, не вяршыня. Гэта — раўніна, у лепшым выпадку. На якой пасуцца мільярды задаволеных сабой абывацеляў.

Але павінна быць штосьці, акрамя гэтага, вышэйшае за гэта. Заўсёды былі і будуць людзі, якім «табе што — больш за іншых трэба?». Артэга-і-Гасэт у сваім несмяротным творы «Паўстанне масаў» называў іх элітай, падкрэсліваючы, што элітнасць вызначаецца не паходжаннем, а пачуццем адказнасці за будучыню, незадаволенасцю сабой і станам рэчаў, «служэннем». Урэшце, лепш за яго не скажу: «Насуперак звычайнай думцы, менавіта чалавек эліты, а зусім не чалавек масы, праводзіць жыццё ў служэнні. Жыццё не мае для яго цікавасці, калі ён не можа прысвяціць яго чамусьці вышэйшаму. Ягонае служэнне — не вонкавы прымус, не прыгнёт, а ўнутраная патрэба. Калі магчымасць служэння знікае, ён адчувае непакой, шукае новага задання, цяжэйшага, больш суровага і адказнага. Гэта жыццё, падпарадкаванае самадысцыпліне, — годнае, высакароднае жыццё. «Жыць у сваё задавальненне — лёс плебеяў; высакародны імкнецца да парадку і закону» (Гётэ)».

## У Канадзе памёр 93-гадовы Уладзімір Катрук, абвінавачаны па справе спалення Хатыні



Ураджэнец Украіны Уладзімір Катрук эміграваў у Канаду ў 1951 годзе. Яго некалькі разоў спрабавалі пазбавіць канадскага грамадзянства з-за падазрэнняў у сувязях з нацыстамі, рашэнне было перагледжана з-за недахопу доказаў.

Сам Катрук адмаўляў датычнасць да якіх-небудзь злачынстваў, але ў той жа час адмаўляўся казаць пра сваё мінулае.

«Многія гады СМІ беспадстаўна пераследавалі містара Катрука. Я вельмі рады, што цяпер ён пакоіцца з мірам», — заявіў яго адвакат Арэст Рудзік.

Літаральна за дзень да смерці намеснік генеральнага пракурора Расіі Аляксандр Звягінцаў паведаміў, што Канада адмовілася выдаць Катрука Расіі.

Уладзімір Катрук уваходзіў у дзясятку найбольш шуканых цэнтрам Сімона Візенталя нацысцкіх злачынцаў. Ён быў знойдзены ў квэбэкскім муніцыпалітэце Мантэрэжы ў Канадзе. Катрук апошнія гады разводзіў пчол.

**Алег Гардзіенка**

# Асцярожна з поштай! Крадзеж пароляў навучыліся маскіраваць пад звычайныя лісты

У апошні месяц беларусы масава сутыкнуліся са спробамі крадзяжу іх пароляў ад электроннай пошты. На прыватныя мэйлы пачалі прыходзіць лісты, у тэме якіх значыцца: «Пастанова суда», «Квітанцыя ад падатковай інспекцыі», «Гарантыйны ліст» і іншыя. Гэтыя нібыта бяскрыўдныя дакументы насамрэч могуць быць спробамі так званага фішынгу — выкрадання пароляў.

Лісты прыходзяць як мінімум з *mail.ru* і *gmail.ru* (другі не звязаны з поштай *Google*) на скрыні пошты *Google*, *gmail.com*. Яны утрымліваюць спасылку на далучаны дакумент. У самім дакуменце ніякага вірусу няма, але каб атрымаць доступ да яго, трэба здаць свой пароль зламыснікам.

Калі спрабуеш адчыніць той далучаны дакумент, на экране з'яўляецца «ідэнтычнае натуральнаму» акенца ўводу пароля.

Калі ў тым акенцы ўвесці любы пароль (хоць «1111»), адчыніцца файл, які зусім не будзе вас тычыцца. Але хапае і такіх, хто ўводзіць у акенцы сапраўдны пароль ад сваёй паштовай скрынкі. Калі так зрабіць, пароль апынецца ў руках зламыснікаў. А разам з паролем — доступ да зарэгістраваных на ўзламаную скрыню сацсетак, а то і банкаўскіх картак.

Адзіны спосаб пазбегнуць узлому — уважліва глядзець на адрасны радок, адкуль ідзе ліст. Сапраўдная пошта *Google* размешчаная на адрасе *mail.google.com* альбо *inbox.google.com*, акно ўводу пароля — на *accounts.google.com*. Іншыя адрасы, кшталту *mail-google.com*, *gmail.ru* ці *googte.com*, — падробкі.

Такім жа чынам могуць красці паролі ад любых іншых папулярных сэрвісаў — «УКантакце», «Яндэкс», *Facebook*, *Tut.by*.

Дадаткова абараніць сябе ад крадзяжу пароляў можна з дапамогай так званай двухфактарнай альбо двухэтапнай аўтэнтыфікацыі: калі акрамя пароля пры ўваходзе з чужога камп'ютара ў вас папросяць увесці аднаразовы код, што высылаецца вам праз SMS. Уключыць такую функцыю можна практычна на любым сэрвісе ў раздзелах наладаў «Бяспека» альбо «Акаўнт».

**Аляксандр Арсёнаў**

# Совы і жаваранкі: хто здаравейшы і багацейшы?

Рэдактар праекта *CityLab* Эрык Яфэ сабраў шэраг навуковых даследаванняў, з якіх **выве ў тэндэнцыі** адносна людзей, схільных позна класціся спаць альбо, наадварот, рана прачынацца.

### Совы багацейшыя, але не здаравейшыя

Як паказала даследаванне 1998 года, у якім узялі ўдзел 356 жаваранкаў і 318 соваў, людзі абодвух тыпаў атрымліваюць аднолькавыя балы ў тэстах на здароўе. Але ў соваў аказаўся ў сярэднім вышэйшы прыбытак і больш аўтамабіляў ва ўласнасці.

### Совы, магчыма, на крапельку разумнейшыя

У даследаванні 1999 года 420 соваў і жаваранкаў таксама паказалі прыблізна роўныя вынікі здольнасцяў у тэстах на прафесійныя веды, рабочую памяць, хуткасць апрацоўкі інфармацыі і іншых. Але вынікі трошкі схіляліся на карысць соваў, асабліва па частцы памяці і апрацоўкі інфармацыі. Нават тады, калі тэсты праводзіліся зранку.

### Жаваранкі больш верныя

Даследаванне 284 мужчын у 2012 годзе паказала, што совы і жаваранкі займаюцца каханнем аднолькава часта, але совы маюць у сярэднім больш партнёраў і больш няверныя.

### Жаваранкі менш п'юць і паляць

Аналіз звычак 676 фінскіх блізнятаў паказаў, што совы часцей пачынаюць паліць, радзей кідаюць і наогул маюць заўважна большую рызыку нікатынавай залежнасці. А даследаванне іншых 57 чалавек паказала, што совы таксама спажываюць больш алкаголю.

### Жаваранкі больш ініцыятыўныя

Шкодныя звычкі соваў могуць быць проста «пошукам новых адчуванняў» — прынамсі, розныя незалежныя даследаванні паказалі, што часцей шукаюць новае менавіта тыя, хто не любіць рана прачынацца. Затое, як паказала вывучэнне характараў 346 людзей, жаваранкі больш настойлівыя і больш схільныя да кааперацыі. Яшчэ адно даследаванне прызнала жаваранкаў больш згаворлівымі і добрасумленнымі, іншае — больш ініцыятыўнымі.

### У жаваранкаў лепшы настрой

Навукоўцы кажуць аб «сацыяльным джэтлагу»: калі людзі любяць вечар, а ад іх многага чакаюць удзень, гэта нясе праблемы. А праблемы псуюць настрой. Як паказала даследаванне 435 маладых і 297 старых людзей у 2012 годзе, жаваранкі напраўду маюць больш пазітыўны настрой, хаця гэта і не кажа аб агульным узроўні шчасця.

**Аляксандр Арсёнаў**



## Джоні Дэпу пагражае 10 гадоў турмы

Аўстралійскія ўлады збіраюцца судзіцца з галівудскім акцёрам з-за яго ёркшырскіх тэр'ераў, якіх ён незаконна прывёз на тэрыторыю краіны.

Прадстаўнікі сената Аўстраліі паведамілі прэсе, што калі суд адбудзецца і акцёра прызнаюць вінаватым, то яму пагражае да 10 гадоў турэмнага зняволення. У адваротным выпадку Дэп будзе вымушаны заплаціць штраф, максімальны памер якога можа дасягнуць 265.000 даляраў.

Два ёркшырскія тэр'еры акцёра 21 красавіка прыляцелі разам з Дэпам з ЗША на яго прыватным самалёце, абыходзячы санітарныя службы. Тады ўлады Аўстраліі далі амерыканскаму акцёру трое сутак на тое, каб вывезці сабак з краіны, прыстрашыўшы ў адваротным выпадку ўсыпіць жывёл.

**СЦ**

## Беларусь — сярод краін-лідараў па колькасці падлеткаў, што кураць рэгулярна

Такія высновы былі зроблены па выніках сацыялагічнага апытання, якое праводзіў цэнтр маніторынгу на базе РНПЦ псіхічнага здароўя. Дакладных лічбаў галоўны педыятр Міністэрства аховы здароўя Беларусі Валянціна Ваўчок агучыць не змагла.

Раней паведамлялася, што рэгулярна кураць у Беларусі больш за 65% студэнтаў і школьнікаў.

З алкаголем сітуацыя таксама неадназначная. Больш за 40% апытаных падлеткаў прызналіся, што ўпершыню пакаштавалі алкаголь у сябе дома, гэта значыць у сям'і. Больш за 8% сказалі, што першы раз выпілі гарэлку ў 11—14 гадоў.

«Лічба непаўналетніх, якія стаяць на ўліку ў нарколагаў, застаецца несуцяшальнай, — адзначыла Валянціна Ваўчок. — Для вырашэння гэтых праблем патрабуецца ўдзел усіх зацікаўленых, і асабліва — бацькоў. Штогод каля 2 тысяч дзяцей прызнаюць, што яны знаходзяцца ў сацыяльна небяспечным становішчы».

**Tut.by**

## Symbal.by выпусціў вышымайку са стразамі

Набыць яе ўжо можна як праз інтэрнэт, гэтак і ў краме на 3-м паверсе ГЦ «Маскоўска-Венскі».

На вышымайцы стразамі «вышыты» ўзор з матывамі Ярылы — язычніцкага бога ўрадлівасці і жыццёвых сіл прыроды.

Пакуль у продажы толькі жаночыя мадэлі памераў XS, S, M і L. Цішоткі зроблены на 90% з баво ўны і на 10% з эластану.

Карыстальнікі ў сацсетках па-рознаму называюць такія цішоткі — «стразавышыванка», «стразамайка», «стразаванка»... Жартуюць, што ўзор вышыты «крышталямі Сварогскі».

Як расказаў «Нашай Ніве» дырэктар крамы Павел Белавус, Symbal.by пачалі пераходзіць на беларускую вытворчасць: новыя байкі з выцінанкай, торбы і «стразаванкі» маюць на бірцы надпіс «Зроблена ў Беларусі».

«Гэта не нейкі прома-тэкстыль, гэта цалкам пашытыя ў Беларусі рэчы, — сцвярджае Белавус. — Паціху пераходзім ад проста крамы да стварэння нейкага брэнду».

**АА**

Фотафакт




**У Віцебску з'явілася графіці з партрэтам Яўгена Лявонава ў ролі Дацэнта**

Выканана яно на трансфарматарнай будцы ў раёне дома № 13 па Смаленскай вуліцы. Фотарэалістычны партрэт створаны вядомай віцебскай стрыт-арт-камандай *HoodGraff*, якая малюе графіці не толькі ў абласных цэнтры, але таксама ў Мінску і Санкт-Пецярбургу.

У Віцебску ўжо налічваецца больш за дзясятак вулічных твораў гэтай арт-групы з партрэтамі вядомых людзей: Боба Марлі, Стыва Джобса, Юрыя Гагарына, Аляксандра Пушкіна і іншых.

Кіно

## Рэй-выратавальнік

Разлом Сан-Андрэас
**Жанр:** трылер, драма
**Рэжысёр:** Брэд Пейтан
**У ролях:** Дуэйн Джонсан, Карла Гуджына, Аляксандра Дадарыа, Ёан Грыфіт, Арчы Панджабі, Пол Джамаці, Х'юга Джостан-Барт, Арт Паркінсан, Уіл Юн Лі
ЗША, 107 хв.
**Адзнака:** 7

У Каліфорніі адбываецца магутны землятрус, у выніку якога гінуць сотні людзей і ўтвараецца вялізная расколіна ў зямлі. Сярод панікі і хаосу Рэю, прафесійнаму ратавальніку і пілоту верталёта, трэба адшукаць сваю дачку Блэйк, якая паехала ў Сан-Францыска. Ён спадзяецца, што яго дзіця ўсё яшчэ жывое, і кіруецца ў смяротна небяспечнае падарожжа праз увесь штат. Тым часам землятрус не заканчваецца — падземныя штуршкі працягваюцца, утвараецца цунамі.

Канадскі рэжысёр Брэд Пейтан стварыў фільм-катастрофу, заснаваны на рэальных падзеях і навуковых дапушчэннях. Сан-Андрэас — назва лініі тэктанічнага разлому, які праходзіць праз большую частку Каліфорніі. З разломам звязаны шэраг землятрусаў. Найбольш вядомыя з іх — землятрусы ў Сан-Францыска (1906, магнітуда 7,7) і Лома-Прыета (1989, магнітуда 7,1). У стужцы паказаныя разбурэнні, якія могуць адбыцца ў Каліфорніі, калі тэктанічныя пліты, што ўтвараюць разлом, пасунуцца. Землятрус можа дасягнуць магнітуды 9,6, а з мора прыйдзе магутнае цунамі.

Здымкі адбываліся ў Квінслендзе, Лос-Анджэлесе, Бейкерсфілдзе і Сан-Францыска. Аднак большасць кадраў створаная пры дапамозе камп'ютарных тэхналогій: паступовае разбурэнне будынкаў Сан-Францыска, утварэнне разлому ў зямлі насамрэч уражваюць. Аднак фільм утрымлівае ўсе штампы фільма-катастрофы і цытуе сваіх папярэднікаў — вядомыя «Паслязаўтра» (2004) і «2012» (2009) Роланда Эмерыха. Тут таксама прысутнічае навуковец, які прадказвае блізкую катастрофу, але да яго папярэджанняў ніхто не прыслухоўваецца. Асноўная ж сюжэтная лінія завязана на адносіны ў сям'і Рэя. Ратавальнік кідае свае службовыя абавязкі і вядзе верталёт на дапамогу былой жонцы і дачцэ.

Стужка ўражвае маштабам разбурэнняў і эмацыйным накалам з-за пастаяннай небяспекі, у якой апынаюцца героі. Спосабы, якімі яны ратуюць сваё жыццё, паказаныя цікава і слушна. Хочацца спадзявацца, што гледачам гэта інфармацыя ніколі не спатрэбіцца.

**Настасся Уласава**




**Фільм-катастрофа**

або фільм катастроф (англ. disaster film) — фільм, героі якога трапілі ў катастрофу і спрабуюць выратавацца. Спецыфічная разнавіднасць трылера і драмы. Гаворка можа ісці як пра прыродны катаклізм (смерч, землятрус, вывяржэнне вулкана), так і пра тэхнагенную катастрофу.

# Беларускамоўныя школы і класы Мінска

Памятайце, што пытанне запісу ў садок і школу трэба вырашаць загадзя, што прыкідкі на камплектаванне груп загадчыцы і дырэктары вырашаюць наперад. Не прапусціце дэдлайнаў!

**Гімназія №4** (Кунцаўшчына, 18): навучанне ў фізіка-матэматычных, хіміка-біялагічных і філалагічных класах (вывучэнне англійскай і польскай мовы з 1 класа, нямецкая ці французская ў якасці другой замежнай мовы).
E-mail: gymn4@minsk.edu.by; т.: (017) 258-49-71

**Гімназія №23** (пр. Незалежнасці, 45): вывучэнне англійскай і кітайскай мовы з 1 класа.
E-mail: gymn23@minsk.edu.by; т.: (017) 284-47-62

**Гімназія №9** (Сядых, 10): вывучэнне англійскай мовы з 1 класа, факультатыўнае вывучэнне польскай з 2 класа, музычныя заняткі (фартэпіяна, баян, акардэон, флейта, цымбалы).
E-mail: gymn9@minsk.edu.by; т.: (017) 283-04-21

**Гімназія №28** (Ракасоўскага, 93): паглыбленае вывучэнне англійскай і французскай моў, міжнародныя абмены, выкладанне прадметаў на французскай мове (краіназнаўства, літаратура Францыі) па праграмах, распрацаваных настаўнікамі школы.
E-mail: gymn28@minsk.edu.by; т.: (017) 368-32-02, 368-12-64

**Гімназія №14** (Васнецова, 10): вывучэнне англійскай мовы з 1 класа, карэйскай мовы ў якасці факультатыва. На базе гімназіі дзейнічаюць фальклорны ансамбль, музей, літаратурная студыя і студыя бальных танцаў. У гімназіі ёсць уласны спарткомплекс з басейнам.
E-mail: gymn14@minsk.edu.by; т.: (017) 295-21-37.

**СШ №190** (Нікіфарава, 19): выкладанне на беларускай і расейскай мовах. Бясплатная музычная адукацыя з 1 класа, спартыўныя секцыі і турыстычны клуб.
E-mail: sch190@minsk.edu.by; т.: (017) 260-24-90

**СШ №60** (Лібкнехта, 82) — беларускамоўная школа з музычным ухілам.
E-mail: sch60@minsk.edu.by; т.: (017) 208-69-74, 209-94-49

### Белмоўныя школы і класы ў расійскамоўных школах вялікіх гарадоў

**Мінск**
**СШ № 68** (зав. Ахоцкі, 17): класы з фальклорна-тэатральным кірункам.
E-mail: sch68@minsk.edu.by; т.: (017) 243-76-82

**Гродна**
**СШ №32** (Ліможа, 11)
E-mail: sh32.schivilko@gmail.com; т.: (0152) 48-50-48; 43-64-03

**Магілёў**
**СШ №1** (Першамайская, 24)
E-mail: SSh1gmogileva@mail.ru; т.: (0222) 22-12-64

**Барысаў**
**Беларускамоўная гімназія №2** (вул. Н.-Нёман, 22)
E-mail: bor_belgim2@rambler.ru; т.: (177) 72-27-57

### Беларускамоўныя садкі Мінска

Спіс дзіцячых садкоў Мінска, у якіх ужо функцыянуюць беларускамоўныя групы. Каб сфарміраваць беларускамоўную групу ў іншых садках, Вам трэба гуртавацца з іншымі бацькамі, якія таго хочуць.

**Заводскі раён**
**ДДУ №202** (Партызанскі пр., 85а). Т.: (017) 295-12-92. Працуе група для дзяцей-старшачкоў (5—6 гадоў) і дзяцей сярэдняга ўзросту (4—5 гадоў), групы ўкамплектаваныя.

**Маскоўскі раён**
**ДДУ №412** (пр. Газеты «Праўда», 64а). Т.: (017) 277-18-17. Працуе група для дзяцей-старшачкоў (5—6 гадоў), група ўкамплектаваная. Адміністрацыя садка паведаміла, што набіраць новыя беларускамоўныя групы пакуль не плануе, бо садку бракуе вольнага памяшкання.
**ДДУ №473** (Ясеніна, 6/4). Т.: (017) 207-90-68. Працуе група для дзяцей 3—5 гадоў, група ўкамплептаваная. Аднак з верасня пачне працаваць група для дзетак 3—4 гадоў — туды набор адкрыты.

**Першамайскі раён**
**ДДУ №273** (Каліноўскага, 89). Т.: (017) 263-06-84. Працуе адна група для дзяцей сярэдняга ўзросту (4—5 гадоў). Група ўкамплектаваная.
**ДДУ №522** (Русіянава, 23). Група была, скасавалі, набіраць не плануюць.
**ДДУ №66** (пр. Незалежнасці, 102а). Т.: (017) 267-60-52, (017) 267-49-05. Працуе група для дзяцей 3—4 гадоў. Група ўкамплектаваная, але ў садку запэўнілі, што разгледзяць пытанне аб прыняцці.
**ДДУ №361** (Цікоцкага, 44). Т.: (017) 263-38-28. Працуюць дзве групы для дзяцей 2—3 і 4—5 гадоў, групы ўкамплектаваныя.

**Савецкі раён**
**ДДУ №314** (Багдановіча, 68а). Т.: (017) 334-50-25, (017) 334-25-61. Працуюць дзве рознаўзроставыя групы.

**Фрунзенскі раён**
**ДДУ №534** (Матусевіча, 59). Т.: (017) 257-76-91. Садок з 12 беларускамоўнымі і 2 расійскамоўнымі лагапедычнымі групамі. Усе беларускамоўныя групы ўкамплектаваныя.

**Цэнтральны раён**
**ДДУ № 187** (Кахоўская, 64а). Т.: (017) 288-06-71. Беларускамоўны садок з чатырма ўкамплектаванымі групамі. Аднак у верасні адкрываецца яшчэ адна група для дзяцей малодшага ўзросту (3—4 гады) — у яе цяпер набіраюць дзяцей.
**ДДУ № 503** (Радужная, 4, корп. 2). Т.: (017) 250-17-59. Працуе адна ўкамплектаваная група для дзяцей сярэдняга ўзросту (4—5 гадоў). Да верасня плануецца набраць яшчэ адну групу, але адміністрацыя пакуль не вызначылася, дзяцей якога ўзросту плануецца прымаць у групу.

(Калі ласка, правярайце гэтыя звесткі ў канкрэтных школах і раёнах, бо лічба школ і класаў можа мяняцца ў залежнасці ад напаўняльнасці.)

**Кірыла Хілько**



**Выпускнікі 4 класа беларускамоўнай гімназіі №23 Мінска.**

**БХД і ТБМ прапануюць дапамогу**

Бацькі, якія хочуць аддаць дзіця ў беларускамоўную групу мінскага дзіцячага садка, могуць звярнуцца на тэлефон +375 25 538-40-59 ці напісаць на электронную скрыню belsadok@gmail.com. Вам дапамогуць у падборы варыянта.

## Сын міністра адукацыі паступіў у гістарычны клас Ліцэя БДУ

Міністр адукацыі Міхаіл Журавкоў прыйшоў на апошні званок у сталічную гімназію №2. У гэтай навучальнай установе 9 класаў скончыў ягоны сын Мікіта.

Па словах міністра, Мікіта паступіў у гістарычны клас Ліцэя БДУ.

«На жаль, не пайшоў па маім шляху, — заявіў міністр у размове з карэспандэнтам «Камсамольскай праўды». — Але ён хоча быць гісторыкам, палітолагам, міжнароднікам. Ну, няхай! Сын удзельнічаў у канферэнцыях, алімпіядах па гісторыі. Яму гэта больш падабаецца».

На ўступных экзаменах у ліцэй Мікіта Журавкоў набраў 122 балы (64 па гісторыі Беларусі + 58 па сусветнай гісторыі і грамадазнаўстве). Гэта 36 месца са 116 абітурыентаў, якія здавалі іспыты на паступленне па гістарычным профілі. Прахадны бал на грамадазнаўчыя навукі складаў 116 балаў.

**ЯМ**

**Вы прасілі разабрацца**

## На «Мілавіцы» трохдзёнка, «але гэта нармальна»

Чытачы напісалі нам, што адно з самых прыбытковых і вядомых беларускіх прадпрыемстваў — СП ЗАТ «Мілавіца» — таксама перажывае не найлепшыя часы.

Адзін чытач паведаміў, што рабочых на 10 дзён адпраўляюць за свой кошт у адпачынак. Другі расказаў, што пераводзяць на трохдзёнку.

А што ж кіраўніцтва «Мілавіцы»? Яно супакойвае: «Нічога страшнага не адбываецца». Па іх словах, гэта «стандартная практыка».

«Мы так арганізуем вытворчы працэс, каб нашы работніцы маглі летам адпачыць. У гэты час адбываецца неабходны рамонт памяшканняў і наладка абсталявання. А нашы жанчыны маюць магчымасць не толькі адпачыць летам, у самы лепшы час, але таксама падрыхтаваць дзяцей да навучальнага года, — расказала парталу ej.by тэхнічны дырэктар прадпрыемства Алена Ткачэнка. — Так, летам продаж вырастае на 30—40%, але для нас гэта не складзе праблемы: напярэдадні планава робім неабходны запас прадукцыі на складах, таму нават у самым канцы высокага сезона не маем цяжкасцяў з адгрузкай патрэбнага асартыменту».

Прычым за першае паўгоддзе 2014 зарплата работнікаў СП ЗАТ «Мілавіца» вырасла ў параўнанні з першым паўгоддзем мінулага года на 16,8% і на дадзены момант з'яўляецца самай высокай сярод прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці Беларусі.

Таму непакой маладых супрацоўнікаў фабрыкі зразумелы, але пакуль заўчасны. Ёсць спадзяванні, што пад восень сітуацыя выраўнаецца.

**Улад Швядовіч**

## Прыватныя абвесткі

**ВІНШУЕМ**

**Шаноўнага экскурсавода Ігара Гатальскага** віншуем з 50-годдзем! Жадаем шчасця, здароўя, здзяйснення мар і задум і творчых поспехаў. З павагай, сябры

**ЗДАЮ**

**Здаецца двухпакаёвая кватэра** ў раёне вуліц Адоеўскага, Маўра ў Мінску. (029) 757-94-07 Вадзім

**ЗДЫМУ**

**Маладая пара здыме** 1-пакаёвую кватэру ў Мінску. Да 250$. Разгледзім розныя варыянты. Звязацца з намі можна праз сацсетку «УКантакце» (id150272584)

**ПРАДАМ**

**Прадаю надзел у Ашмянах**, 25 сотак, падведзеныя ўсе камунікацыі. Тэлефон для сувязі: 710-61-78.

**У аграгарадку Мір**, за 4 кіламетры ад Баранавіч, **прадаецца кватэра** з асобным уваходам. У ёй 2 паверхі, 5 пакояў. Ёсць вада, газ, электрычнасць. На першым паверсе — адзін пакой (больш за 20 м²), кухня (больш за 10 м²), туалет, ванная. На кухні — газавая пліта і воданагравальнік. Гарачая вада ў кухні і ў ваннай. На другім паверсе 4 пакоі і туалет. У двары расце лімоннік кітайскі, вішні, слівы, вінаград і грэцкі арэх.
Адрас: Баранавіцкі раён, а.г. Мір, вуліца Цэнтральная, дом 5, кватэра 3.
Тэлефоны: (0163) 44-42-56, (029) 273-98-52

**Прадаю кнігі:** «Живописная Россия» (III том пра Беларусь), «Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакументах і ўспамінах», «Зброя ВКЛ», «Статут ВКЛ» (факсіміле), «Энцыклапедыя ВКЛ» у 3 тамах, «Радзівілы — альбом партрэтаў», падшыўку «Нашай Нівы» ад 05.11.2004 па апошні нумар. PavelDziusekau@gmail.com, (029) 564-70-09

**ХОБІ**

Адкрыты чэмпіянат па відэагульні *Guitar Hero* пачнецца ў клубе *Re:Public* 3 чэрвеня з 18:30. Галоўным прызам стануць квіткі на *Metropolis Fest*, хэдлайнерамі на якім будуць *Dream Theater*, ды калекцыйныя выданні альбомаў гурту з аўтографамі яго ўдзельнікаў.
Удзел у чэмпіянаце вольны пры выкананні шэрагу ўмоў. Уваход на чэмпіянат для гледачоў вольны.
Чэмпіянат пройдзе ў версіі гульні *Guitar Hero: World Tour* па алімпійскай сістэме. «Спартыўныя снарады» — кансолі *Sony PlayStation 3* і *Xbox 360*.

# 21-гадовы бацька малалетняга сына асуджаны за згвалтаванне і забойства

«Мой сын — не гвалтаўнік і не забойца!» — упарта **верыць яго маці.**

Суд праходзіў у закрытым рэжыме. Адкрыта агучылі толькі прысуд. 21-гадовы Кірыл Паборцаў атрымаў 20 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму за тое, што згвалтаваў і забіў Вікторыю Ясель.

18-гадовая Вікторыя знікла летась, 20 жніўня. Дзяўчына ўвечары выйшла з працы ў Мінску, села ў «Мерседэс», пасля чаго яе больш не бачылі. У міліцыю звярнуліся яе бацькі на наступны дзень. Спачатку знайшлі машыну і кіроўцу. Ім аказаўся прыяцель дзяўчыны, Кірыл Паборцаў. Але малады чалавек сцвярджаў, што толькі падвёз яе ў пасёлак Міханавічы, дзе тая жыла.

Пасля высветлілі, што кіроўца сябраваў з Вікторыяй каля трох гадоў, перапісваўся з ёй у сацыяльных сетках, сустракаўся ў кампаніях. Аператыўнікі вырашылі апытаць маладога чалавека дэталёва — па хвілінах раскласці той дзень. Выявіліся нестыкоўкі: яго сведчанні разыходзіліся з паказаннямі сваякоў і сяброў. Засумняваліся ў яго шчырасці. І ўжо на чарговай размове хлопец ва ўсім прызнаўся. Маўляў, «выпадкова» задушыў Вікторыю. А калі ўсвядоміў, што нарабіў, закапаў цела дзяўчыны пад Мінскам. Калі труп адкапалі, выявілася, што Вікторыя была яшчэ і згвалтаваная.

Паборцаў нарадзіўся ў Оршы, да затрымання жыў у вёсцы Дубаўляны пад Мінскам. Мае сярэднюю спецыяльную адукацыю. У свае 21 ён быў ужо жанаты, на руках у яго — малалетні сын. Ён працаваў кіроўцам у прыватнай гандлёвай фірме. Раней не судзімы.

«Я веру, што мой сын — не гвалтаўнік і не забойца, — заявіла пасля прысуду маці хлопца. — Бог ім суддзя!»

Паборцаву трэба цягам месяца выплаціць 300 мільёнаў рублёў маральнай кампенсацыі родным Вікторыі, яшчэ 19,5 мільёна — за выдаткі на паслугі прадстаўніка з боку Ясель. Калі родныя гэтага не зробяць, то на гэтыя мэты пойдуць канфіскаваныя ў хлопца «Айфон 4», гадзіннік і аўто «Мерседэс-Бэнц» (1998 год выпуску).

Адвакат хлопца будзе абскарджваць прысуд. Ён настойвае, што забойства было па неасцярожнасці. А гэта іншая, менш жорсткая, адказнасць — максімум 5 гадоў зняволення.

**Сяргей Макарэвіч**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Вышук**



**Сышла і не вярнулася**

Алена Гулевіч 27 красавіка сышла з дому ў в. Пераволака Рэчыцкага раёна і не вярнулася. Прыкметы: 27 гадоў, рост 174 см, над правым брывом радзімка. Была ў чорным сарафане з малюнкам шэрых кветак, ружовым шаліку. Хто ведае знаходжанне дзяўчыны, звяртайцеся на (029) 232-11-11.



**Небяспечны чалавек**

Міхаіл Табала, 1960 года нараджэння, падазраецца ў забойстве. Хто ведае знаходжанне мужчыны, звяртайцеся ва УУС Брэсцкага аблвыканкама на (0162) 27-54-95.

# Матч, якога не было

У Беларусі ўпершыню **пракруцілі схему** з падстаўнымі букмекерскімі стаўкамі.

Але выверараны план даў расколіну. У выніку пад следства трапілі чацвёра.

Усё пачалося з шараговага паведамлення на сайце футбольнага клуба «Шахцёр» 3 лютага. «Сёння адбыўся таварыскі матч нашага «Шахцёра» супраць ФК «Слуцк». Гульня праходзіла ў Пінску на стадыёне «Хваля». Матч выдаўся цікавым, было багата галявых момантаў. Больш вопытныя «гарнякі» валодалі як тэрытарыяльнай, так і гульнявой перавагай, што і вылілася ў забіты мяч у канцы першага тайма. Акрамя таго, быў яшчэ і нерэалізаваны пенальці». У другім тайме зноў дамініравалі «гарнякі», але вынік аказаўся нечаканым — «Слуцк» перамог з лікам 2:1.

Для неабазнанага ў айчынным футболе чалавека гэта нічога не азначае: адна каманда перамагла другую. Не надта такімі таварыскімі матчамі цікавяцца і аматары футбола: усе чакаюць пачатку новага сезона ў рэгулярным чэмпіянаце. Таму схема, якую вырашылі пракруціць беларусы, выглядала ідэальнай. І раскрылася фактычна выпадкова.

Навіна, схаваная ў глыбіні сайта, трапілася на вочы адмысловцам. Пачалі разбірацца. І выявілася, што гульні паміж камандамі не было. А быў арганізаваны «развод» айчынных заўзятараў і замежных букмекерскіх кантор.

Выявілася, што двое мінчукоў, 1985 і 1975 гадоў нараджэння, якія займаліся зборам звестак і вялі анлайн-трансляцыі для букмекерскіх кантор, распрацавалі цэлую схему. Прапанавалі прадстаўнікам футбольных клубаў «Шахцёр» і «Слуцк» апублікаваць на афіцыйных сайтах інфармацыю пра «будучы» матч. Такім чынам яны разлічвалі падмануць замежных букмекераў.

### Як гэта працуе?

Як толькі сайты «Шахцёра» і «Слуцка» паведамілі пра будучую гульню, інфармацыю перадалі ў замежныя букмекерскія канторы. А тыя запусцілі матч у трансляцыю. У выніку з дзясятак замежных кантор прымалі стаўкі.

Як працуюць букмекерскія канторы? Перад гульнёй аналітыкі збіраюць інфармацыю, уводзяць кантрольныя параметры ў камп'ютар, а ўжо праграма разлічвае каэфіцыенты — лічбы, якія вызначаюць суму выйгрышу. Каэфіцыент залежыць ад клубнага рэйтынгу. На рэйтынг уплывае шэраг фактараў: трансферы, фізічны стан гульцоў, бягучая гульнявая форма. Чым слабейшая каманда, тым больш каэфіцыент на яе перамогу. Адпаведна яе шанец выйграць — нізкі. Але ў выпадку перамогі, хто ставіў на яе грошы, можа азалаціцца.

Ад каго букмекеры даведваюцца пра матч і яго выніки? Ад скаўтаў. Гэта людзі, якія ходзяць на матчы і перадаюць анлайн-трансляцыю. Працуюць яны для скаўт-кампаній, якія прадаюць дадзеныя букмекерскім кантрам альбо адразу на букмекераў. І калі беларускія скаўты ведалі загадзя, якая каманда пераможа, то маглі зрабіць стаўкі ў букмекераў. Для гэтай схемы і былі абраны менавіта замежныя канторы, бо айчынныя адразу б вылічылі махлярства.

Колькі маглі зарабіць на фантомнай гульні? Цяжка ацаніць. Стаўкі ў букмекераў прымаюцца не толькі на вынік, але і на асобныя моманты гульні: на лік пасля першага тайма, на забітыя і незабітыя пенальці. А такія, дарэчы, і былі ў анлайн-трансляцыі. Стаўак магло быць дзясяткі. Хутчэй за ўсё, ніхто не стаў бы рызыкаваць толькі дзеля пары тысяч даляраў. Таму гаворка вядзецца пра большыя сумы.

Але пакуль крымінальная справа заведзена ў Беларусі супраць чатырох чалавек за мадыфікацыю камп'ютарнай інфармацыі. Ім пагражае ад штрафу да трох гадоў калоніі. А адказнасці за зароблення, як выглядае махлярствам, грошы можа не быць. Прынамсі, пакуль.

**Кастусь Матушыч**

### Расеец, які знаходзіўся ў міжнародным вышуку, затрыманы ў Мінску на Mercedes са стразамі

У Беларусі затрыманы 45-гадовы грамадзянін Расіі, ураджэнец Грузіі, які знаходзіўся ў міжнародным вышуку за здзяйсненне цяжкага эканамічнага злачынства, паведамляе прэс-служба МУС Беларусі.

Ён з'яўляецца дырэктарам адной з арганізацый, якая будуе касмадром «Усходні» ў Амурскай вобласці Расіі. Фірма атрымала перадаплату ў памеры каля 4 млн расійскіх рублёў і выдаткавала грошы на свае патрэбы, ніяк не звязаныя з будаўніцтвам аб'екта. У Расіі была распачатая крымінальная справа.

Інфармацыя аб магчымым знаходжанні расейца ў Мінску з'явілася ў канцы мая. Праваахоўнікам спатрэбілася тыдзень, каб выйсці на след зламысніка. Затрымалі мужчыну ў аўтамабілі *Mercedes*, пакрытым стразамі *Swarovski*. Аўтамабіль, як паведамляецца, зарэгістраваны ў Краснадарскім краі на прыяцеля затрыманага.

У дадзены момант вырашаецца пытанне з экстрадыцыяй.

## Сціслa

### Сабачнік збіў мужчыну, які бараніў дзіця

У Гродне 28 мая мужчына вечарам ішоў разам з сынам дамоў, калі да дзіцяці падбег сабака без намордніка і спалохаў яго. Бацька зрабіў гаспадару сабакі заўвагу. А той накінуўся з кулакамі. Пасля першага хуку апанент прысеў на калені і надалей толькі абараняўся, прыкрыўшы галаву рукамі. Распачата крымінальная справа. На сабачніка яшчэ складзены адміністрацыйны пратакол за выгул сабакі без намордніка.

### Сама сябе пакарала

Мінчанку Іну Зубовіч, што выкінула з 12-га паверха свайго трохгадовага сына, асудзілі да 23 гадоў калоніі агульнага рэжыму без канфіскацыі маёмасці. Пракурор прасіў максімальна магчымае пакаранне — 25 гадоў. Адвакат настойвала на васьмі. Здарэнне адбылося 28 студзеня. Зубовіч даказвала, што хацела скінуцца разам з сынам. Але як скінула дзіця, сама перадумала. Перад забойствам напала трохгадовага хлопчыка — у целе дзіцяці знайшлі 1,9 праміле алкаголю.

### Забіла маланкай

Трагедыя здарылася каля в. Лядзец у Столінскім раёне. 44-гадовы вясковец вяртаўся да сужыцелькі ад маці з вёскі Туры. Прасьбы маці не выязджаць з дому, бо пачалася навальніца, не паслухаў. Труп знайшлі побач з роварам на дарозе.

### Затрымалі падлетка на «БМВ»

Каб спыніць п'янага падлетка на «БМВ», давялося зладзіць пагоню па начным Мінску. Даехаўшы да вуліцы Лесі Украінкі, кіроўца знізіў хуткасць і на хаду выскачыў з аўто, следам за ім выскачылі два пасажыры. Машына ж наехала на прыпаркаваныя «Сітраен» і «Пежо». Спрабавалі ўцячы, але былі затрыманыя. Кіроўцам аказаўся непаўналетні 1999 года нараджэння, двум яго пасажырам таксама па 16 гадоў. Падлетак быў нападпітку. Адміністрацыйныя матэрыялы будуць накіраваныя ў камісію па справах непаўналетніх для прыняцця рашэння.

**КМ**

# «Светам мы не кіруем» — масон-беларус расказаў пра свой шлях у вольныя муляры

Серж Харытонаў — старшыня Асацыяцыі выпускнікоў ЕГУ. Ён нарадзіўся ў Гродне, цяпер жыве ў Брытаніі. Актыўна ўдзельнічае ў жыцці беларускай дыяспары. Для мяне было нечаканасцю, што ў фэйсбуку ён не хавае сваёй прыналежнасці да масонства.

**«Наша Ніва»: У мяне быў стэрэатып, што гэта даволі таемная, закрытая арганізацыя. І ўжо тым больш нячасты выпадак, каб прыналежнасць да яе публічна афішавалі. Ці я памыляюся?**

**Серж Харытонаў:** Я і ў рэальным жыцці не хаваю таго, што належу да вольнага мулярства — у Англіі да масонства ўжо даўно не ставяцца падазрона, асабліва на поўнач ад Лондана. У Шатландыі штогод адбываюцца масонскія парады. Нічога незвычайнага ў тым, што ты належыш да масонскай ложы няма... Дарэчы, многія мужчыны з манархічнага роду Брытаніі — масоны. Гэтак жа, як гэта было і ва ўсходнееўрапейскіх краінах 200 гадоў таму. Больш за тое, Вялікі Майстар Аб'яднанай Вялікай Ложы Англіі, найстарэйшай у свеце масонскай юрысдыкцыі, да якой належу і я, — гэта Яго Каралеўская Вялікасць Прынц Эдвард, Герцаг Кенцкі.

### Не тайнае таварыства, але таварыства з тайнамі

Вакол масонства існуе мноства жахлівых легендаў — ад гісторыяў пра рытуальныя забойствы да «сусветнай жыдамасонскай змовы». Я разумею, што цяжка пераканаць людзей, што гэта не так. Тым не менш, трохі болей, чым усё, што вы чулі пра масонства, — няпраўда. У свеце каля 6 мільёнаў масонаў, з іх у Англіі каля 250 000. Мы, канечне, не тайнае таварыства, але можна сказаць, што мы таварыства з тайнамі — як і любое прыватнае таварыства ці кампанія ў свеце. Вольнае мулярства ў Англіі — гэта элітны закрыты мужчынскі клуб, які, тым не менш, «элітнасць» супастаўляе з інтэлектуальным багаццем кандыдатаў, а не таўшчынёй іх гаманца. Але, улічваючы, што мы перш за ўсё дабрачынная таварыства, некалькі талераў ніколі не будуць залішнія.

Вольнае мулярства — вельмі кансерватыўнае таварыства, таму захаванне традыцыяў і сакрэтаў — важная частка масонскай культуры. Напрыклад, жалоба па загінулых масонах-жаўнерах Вялікай вайны 1914—1918 гадоў была спыненая толькі зусім нядаўна і былі дазволеныя правінцыйныя гальштукі, да гэтага масонам Брытаніі забаронена было завязваць на сустрэчы гальштукі іншага колеру, апроч чорнага. Традыцыяналізм захоўваецца, нягледзячы на прагрэсіўны характар большасці удзельнікаў. Тым не менш, цягам апошніх трох год масанерыя стала адкрытай як ніколі — кожны ахвотны можа наведаць бібліятэку, архіў ды музей у нашым галоўным будынку на Ковент-гардэн у Лондане.

**«НН»: У колькі гадоў Вы прыйшлі да масонства? Як тое было? Вы самі прыйшлі ці Вам нехта прапанаваў?**

**СХ:** Масонства і масонская этыка прывабліваlі мяне з дзяцінства, гуманістычныя ідэі «каралеўскага майстэрства» для мяне ніколі не былі чужымі. Мяне вабіла інтэлектуальная глыбіня людзей, якія належалі да масонства ў мінулым, і гэты свет здаваўся мне загадкава-прывабным, на ўзроўні маёй жыццёвай філасофіі.

У 2011 годзе падчас працы ў кансалтынгавай кампаніі ў Маскве я пазнаёміўся з ужо памерлым Леанідам Мацыхам — на той час найбольш уплывовым акадэмічным экспертам па масанерыі ў Расеі. Я рэгулярна наведваў ягоныя лекцыі па масонстве і тэалогіі пасля працы і вырашыў, што я маральна гатовы далучыцца да масонства. Неўзабаве я апынуўся ў Англіі — на радзіме «каралеўскага майстэрства» і быў пасвечаны ў першую ступень масанерыі напачатку 2015 года.



Серж Харытонаў (справа) з братам Алістэрам Скейлзам, які пазнаёміў яго са светам англійскага масонства. Сімвал «муляра» — фартушок да пальчаткі.

### Пасвячэнне ў масоны ніколі не забуду

**«НН»: Рытуал прыёму ў масоны сапраўды такі ўрачысты? Яго можна апісваць, ці ён сакрэтны?**

**СХ:** На сёння рытуал пасвячэння ў масонства не сакрэт, і пры жаданні яго апісанне можна лёгка знайсці ў спецыялізаванай літаратуры. Але калі вам цікава далучыцца да «каралеўскага майстэрства», я прапаную перажыць цырымонію прысвячэння на сваім вопыце — гэта сапраўды яскравая і вельмі прыгожая традыцыя, пра якую вы будзеце ўзгадваць усё жыццё. Пасля прысвячэння я некалькі разоў наведваў цырымоніі іншых кандыдатаў, каб паглядзець, як гэта выглядае збоку.

**«НН»: Што Вам дало масонства і што ад Вас патрабуецца ў якасці масона?**

**СХ:** Масонства — гэта грамадскі рух вольных людзей, духоўная практыка і этычнае вучэнне. Мы не палітычная партыя і не рэлігійны рух. Размовы пра палітыку і рэлігію ў Ложы жорстка забароненыя — аж да выключэння з таварыства. Прыходзячы ў масонства, чалавек яднаецца з колам аднадумцаў-інаватараў, мэтаю якіх ёсць паляпшэнне свету. Я знайшоў вялікую колькасць сяброў і проста цікавых мне людзей, з якімі мы


ACTE DECLARATOIRE,
ET
STATUTS
DU GRAND ORIENT
DU
ROYAUME DE POLOGNE
ET DU
GRAND DUCHE DE LITHUANIE.

5784.

падзяляем супольныя інтарэсы і любім весела бавіць час. Апроч таго, я займаюся вывучэннем масонскай гісторыі і пошукам беларускіх масонскіх слядоў у Англіі. На жаль, інфармацыі па Беларусі тут вельмі мала, але ўдалося знайсці некаторыя ўнікальныя масонскія дакументы з узгадкамі пра ВКЛ.

Англійскае масонства — гэта такі ж унікальны феномен англійскае культуры, як брытанская манархія. Масонскія традыцыі і рытуалы захоўваюцца ў амаль нязменным выглядзе ўжо тры стагоддзі. Пры гэтым у розных Брытанскіх правінцыях і нават у адной правінцыі рытуалы могуць адрозніваца ад Ложы да Ложы. Калі вы жадаеце сапраўды нешта зразумець пра Брытанію і брытанцаў, масонства — гэта ўнікальная магчымасць пабачыць краіну такой, якую яе ніколі не зведае турыст. Але патрапіць у масонства можа не кожны. Вам патрэбныя рэкамендацыі існых муляроў і біяграфія, у якой няма ані крымінальных запісаў, ані фактаў неналежных паводзінаў ці праблем з законам у любой краіне свету. Але нават пры гэткіх раскладах вас могуць не прыняць у Ложу, калі браты вырашаць, што вы не можаце далучыцца да іх клуба. Атрымаўшы адмову аднойчы, далей далучыцца цяжэй. Жанчынам і юнакам да 21 года, на жаль, таксама ўваход зачынены. Існуюць жаночыя ложы, але яны не прызнаюцца масонскай юрысдыкцыяй Аб'яднанай Вялікай Ложы Англіі.

### Ёсць і Ladies Nights

Не падумайце толькі, што ўсё, чым мы займаемся, — гэта сур'ёзныя справы. Масонства — гэта не толькі сустрэчы інтэлектуалаў і бізнэс-прафесіяналаў, але і сумесныя святкаванні, летнія барбекю, некалькі келіхаў добрага піва ў пабе ды Ladies Nights — балі, якія ладзяцца некалькі разоў на год, каб пазнаёміць масонскіх выбранніц з жонкамі іншых удзельнікаў Ложы і проста пабыць у прыемнай кампаніі сяброў. Мы любім сходзіць разам на канцэрт, пасмяяцца (часам нават падчас афіцыйных цырымоніяў), паспяваць традыцыйныя масонскія песні ды добра паесці пасля сустрэчы Ложы. Не трэба думаць, што мы толькі і робім, што сядзім у фартухах і пальчатках цэлы дзень і вырашаем лёсы сусвету на сакрэтных сустрэчах, у нас ёсць цікавейшыя справы!

**«НН»: І на Вашым асабістым жыцці гэта таксама адбілася? Кодэкс масона неяк рэгулюе Вашы паводзіны?**

**СХ:** Персанальнае жыццё застаецца персанальным жыццём. Вольнае мулярства — не таталітарная секта і не мафіёзная структура. Любое ўмяшанне ў прыватнае жыццё ў Брытаніі забароненае, ніякіх выключэнняў для масонаў няма. Канечне, ёсць дадатковая адказнасць за свае паводзіны. Гэтаксама як афіцэры застаюцца афіцэрамі і зняўшы сваю форму пасля службы, як святары застаюцца святарамі, нават калі яны на адпачынку на моры. Вашы паводзіны па-за сценамі Ложы — гэта ваша асабістая справа як разумнага індывідуума. Існуе кодэкс англійскай масанерыі, «Кніга канстытуцый», яна рэгулюе масонскае жыццё. Першая з масонскіх Канстытуцый была сфармуляваная ў 1720-я гады, і з таго часу яна шмат разоў мянялася, але гуманістычныя прынцыпы захоўваліся ў аснове кожнай Канстытуцыі без зменаў. Апошнім разам масонская канстытуцыя была змененая ў 2014 годзе.

### Светам мы не кіруем

**«НН»: Падсумоўваючы, масонства дапамагло Вам у жыцці ці шкодзіла таксама?**

**СХ:** Вольнае мулярства — гэта філасофская сістэма алегорыяў, містэрыяў і сімвалаў. Атрымоўваючы веды пра іх значэнне, інакш бачыш звыклыя рэчы і задаеш пытанні пра тое, ці правільна ты жывеш і як можна палепшыць жыцці людзей навокал цябе. Я расчарую тых, хто лічыць масонаў усёмагутнай арганізацыяй, якая кіруе светам. Гэта не так.

Праз масонства я знайшоў для сябе цікавае хобі і мноства новых сяброў. Як масон англійскай юрысдыкцыі, я маю магчымасць вандраваць па краіне і наведваць любую «рэгулярную» Ложу (Ложу, прызнаную Англійскай юрысдыкцыяй) у Брытаніі і ва ўсім свеце. Гэткія Ложы існуюць амаль у кожным кутку свету. А якая можа быць шкода ад таго, што я займаюся самаразвіццём і баўлю час з сябрамі, мне цяжка ўявіць.

На жаль, расчарую вас яшчэ раз: нават аніякіх фінансавых ці прафесійных прэферэнцыяў праз масанерыю шукаць няма патрэбы, бо вы іх не атрымаеце. Вялікая Аб'яднаная Ложа Англіі — гэта другая найбуйнейшая дабрачынная арганізацыя Брытаніі пасля *National Lottery*. Мне даспадобы тое, што мы выдаем фундацыі на навуку, напрыклад, з апошняга, на вывучэнне анкалагічных хваробаў і на гуманітарную дапа-

**Колькі іх?**

Паводле словаў Сержа Харытонава, у свеце налічваецца каля 6 мільёнаў масонаў, з іх у Англіі каля 250 000. Францускамоўная «Вікіпедыя» падае звесткі пра наяўнасць на 2005 год у свеце ад 2 да 4 мільёнаў масонаў. Гэта нашмат менш проці 1950 года, калі іх было каля 7 мільёнаў.

**Царква і масонства**

Каталіцкі касцёл асуджаў масонства на ўсіх яго этапах. Папершае, за рэлігійны рэлятывізм. Па-другое, за таямнічасць. Пратэстанты асуджаюць містычнае і акультнае ў масонстве. Грэчаская праваслаўная царква афіцыйна прылічыла масонаў да блюзнераў. Мусульмане падазраюць масонаў у прасіянізме.

могу пацярпелым падчас прыродных катаклізмаў на Гаіці і ў Непале.

### Апошнім быў Тарашкевіч

**«НН»: Вы кіраўнік Асацыяцыі выпускнікоў Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта. Сярод выпускнікоў ЕГУ шмат масонаў?**

**СХ:** Я не думаю, што сярод выпускнікоў ёсць сябры масонскага таварыства. На самай справе, масонаў-беларусаў я ніколі не сустракаў і апошні беларускі масон, пра якога я ведаю дакладна, — Браніслаў Тарашкевіч [аўтар першай граматыкі беларускай мовы і лідар Беларускай сялянска-работніцкай грамады, самай папулярнай беларускай партыі 1920-х, што фінансавалася з савецкіх і нямецкіх крыніц. Быў арыштаваны польскімі ўладамі, сядзеў у турме ў 1927—1930, 1931—1933, выменяны ў Савецкі Саюз праз абмен зняволеных. Там быў закатаваны ў 1938 — **Рэд.**], які напачатку XX стагоддзя быў чальцом масонскіх ложаў «Тамаш Зан» у Вільні і «Праўда» ў Варшаве. Але гэта не значыць, што за апошнія 100 гадоў беларусы не далучаліся да Ложаў у іншых краінах, таму мне было б цікава пазнаёміцца з іншымі масонамі-беларусамі і разам вывучаць гісторыю масонства ў Беларусі. Бо гэта таксама неад'емная частка нашай культуры, як у часы Рэчы Паспалітай, так і Расейскае Імперыі, БНР, БССР і часоў польскага панавання ў Заходняй Беларусі. Добрыя даследаванні на тэму беларускага вольнага мулярства робіць глыбока паважаны мною прафесар Алесь Смалянчук. Дарэчы, некалі я быў на дужа цікавай выставе па беларускім масонстве ў Нясвіжскім замку, там была добрая калекцыя старажытных рэгаліяў беларускіх масонаў.

Гісторыя масонства на Беларусі ўражвае: Адам Міцкевіч, Тамаш Зан, Вацлаў Ластоўскі, браты Луцкевічы — усе гэтыя людзі былі масонамі. Я спадзяюся, што ў беларусаў узнікне цікавасць да аднаўлення традыцыяў «каралеўскага майстэрства» на Беларусі і аднаўлення масонскай культуры дабрачыннасці.

**«НН»: Чым адрозніваецца масонства брытанскай традыцыі ад французскай?**

**СХ:** Англійскае масонства — эзатэрычна-маральная практыка, якая найвялікшую ролю надае духоўнаму росту і дабрачынным ахвяраванням. Французскае масонства, як кажуць, ангажавана грашыма і палітыкай, яно «рэвалюцыйнае», вера ў Бога там не з'яўляецца абавязковаю ўмоваю для прыняцця ў таварыства. І, апроч таго, у французскай традыцыі жанчыны могуць далучацца да масонства, што непрымальна ў Англіі.

Канфлікт між англійскай і французскай юрысдыкцыямі вельмі стары, і адзіная Ложа ў Францыі, якую прызнае англійскае масонства, — гэта *Grande Loge Nationale Française*. Прычым прызнанне адбылося толькі летась.

**«НН»: З якім масонствам — брытанскага ці французскага тыпу — звязаныя амерыканскія масоны?**

**СХ:** Роля масонаў у ЗША — тэма для асобнай кнігі. Увогуле, сучаснае масонства вельмі рознае, ёсць сур'ёзныя Ложы, а ёсць цалкам камічныя пароды. Амерыканская традыцыя амаль цалкам збудаваная на англійскіх правілах.

**«НН»: А масоны Цэнтральнай і Усходняй Еўропы?**

**СХ:** Таксама на брытанскіх.

**«НН»: Вялікія скандалы былі ў 1970—80-я гады звязаныя з італьянскай масанерыяй. Ложа П-2, Ліча Джэлі, сувязі з аргенцінскімі генераламі... Брудныя сляды з Банка Амбразіяна, банкір, забіты пад лонданскім мостам. Гэта было выпадкова, невыпадкова? Масонства — гэта ўсё ж у аснове сваёй форма ажыццяўляць пэўную, хай сабе не прамую, уладу над светам, так ці не?**

**СХ:** «Меня терзают смутные сомненья»... Вакол масонства існуе вялізная колькасць міфаў, якія ствараюцца рэакцыйнымі сіламі ці наўпрост неадукаванымі людзьмі, якім заўсёды трэба мець вінаватых альбо ворагаў, што не даюць ім жыць. Гэта могуць быць масоны, яўрэі, «чорныя», эмігранты, суседка Зіна... У Амерыцы кажуць, што масоны плануюць зруйнаваць Амерыку, у Францыі — што яны змагаюцца супраць Францыі, у Расеі — што супраць Расеі, а ў Англіі — супраць Англіі... Гэта ўсё дурасці, бо ўдзельнікам нашага таварыства катэгарычна забаронена якім бы ні было чынам выступаць супраць дзяржавы, дзе знаходзіцца Ложа. Усімі масонскімі Канстытуцыямі прадпісваецца абавязак безумоўнага падпарадкавання законам і ўладам той краіны, дзе знаходзіцца Ложа, а падчас святочнай вячэры заўжды прадпісваецца праспяваць дзяржаўны гімн і ўзняць тост за кіраўніка дзяржавы: у Брытаніі за каралеву, у Расеі — за прэзідэнта, і гэтак далей.



Серж Харытонаў на балконе свайго лонданскага офіса.

**Серж Харытонаў**

нарадзіўся ў 1989 у Гродне. Скончыў факультэт міжнароднага і еўрапейскага права Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта ў Вільні ў 2011. Удзельнік гуманітарнай аперацыі па выратаванні ахвяр паводкі 2012 года ў Крымску (Расея). Працаваў у HR-кансалтынгу, медыя і адукацыі. Лаўрэат стыпендыі для міжнародных аспірантаў Бірмінгемскага ўніверсітэта (найлепшы брытанскі ўніверсітэт 2014 года па версіі *The Times* і *The Sunday Times*), жыве ў Брытаніі.

### Удалечы ад вачэй пралетарыяту

Невуцтва, стэрэатыпы, зайздрасць — матывы нелюбові да масонства вельмі розныя. Масоны — гэта прагрэсіўны, калі пажадаеце, інавацыйны рух. Быць інаватарамі ніколі не было проста. І калі паспяховыя людзі збіраюцца недзе ўдалечыні ад вачэй пралетарыяту, «ды яшчэ і не клічуць на сустрэчы не тое, што мяне, але й нават брыгадзіра Міхалыча з трэцяга цэха, ну дык дакладна нешта нячыстае задумваюць, чэрці масонскія».

Паглядзіце на спісы выбітных масонаў замежжа: Атацюрк, Пушкін, Гётэ, Моцарт, Оскар Уайльд, Генры Форд, Чэрчыль. І гэта толькі некалькі імёнаў! Сучасныя інтэрнацыянальная культура, навуковы прагрэс, мадэль плюралістычнага грамадства — усё гэта, сярод іншага, і многагадовая плённая праца вольных муляроў і проста добра адукаваных людзей, далёкіх ад масонства.

Мы сапраўды многа робім для дабрачыннасці ў Англіі і па ўсім свеце, але ёсць рэчы, якія да масонства не маюць дачынення і існуюць толькі ў хворых фантазіях людзей, якія перагледзеліся тэлевізара: войны, палітычныя змовы, кантраляваныя крызісы, людажэрства, нізкія заробкі, дрэннае надвор'е, закладнікі ў падвале... Сапраўды, сярод масонаў ёсць вялікая колькасць паспяховых палітыкаў і бізнэсоўцаў, якія час ад часу робяць нядобрыя рэчы, але калі тыя ж людзі мелі чытацкі білет бібліятэкі, вы ж не будзеце казаць, што ўсе чытальнікі кніг — злодзеі? Гэтак жа і з масонствам — мы не можам адказваць за кожнага чалавека.

### Супраць Поліка

**«НН»: Ваша масонства неяк уплывала на Ваша рашэнне выступіць супраць кандыдатуры Поліка ў ЕГУ? Увогуле, што Вы думаеце пра справы ў ЕГУ? Чаму Вы так асабіста ангажаваліся ў гэта?**

**СХ:** Ніяк не паўплывала, я рабіў тое, што лічыў патрэбным як чалавек, і не шкадую аб тым, што распавёў праўду пра сітуацыю і яе ўдзельнікаў. Адміністрацыя, дарэчы, так і не адказала, чаму Полік са сваёй дзіравай біяграфіяй — найлепшы кандыдат на пазіцыю рэктара беларускага ўніверсітэта. Гэтак жа не распавёў пра свой выбар і Арцём Анісімаў (прадстаўнік выпускнікоў падчас галасавання па кандыдатуры рэктара), які палічыў больш правільным хавацца ад адказнасці і рабіць выгляд, што нічога не адбылося. Рашэнне прызначыць Поліка рэктарам выклікала ў многіх расчараванне, і я думаю, што зараз лепш за ўсё запытаць акадэміка Міхайлава і ягоную кампанію сівавалосых чараўнікоў ад адукацыі аб тым, чаго чакаць ад ЕГУ далей.

Гутарыў Андрэй Дынько



Зала Severn Street Masonic Hall — найстарэйшага масонскага цэнтра ў Бірмінгеме.

### Бліц

**— Што для Вас малая радзіма?**

— Я правёў у Гародні 18 гадоў, і я ганаруся любімым горадам. Я не занадта веру ў нацыяналізм вялікіх прастораў. Мне падаецца, што перш за ўсё трэба любіць тое месца, дзе твой дом, тваё сэрца, і рабіць яго лепшым. Як і ўсе гарадзенцы, я не люблю Менска. Гэта не «мой» горад. Пакуль што.

**— Чаму Вы выбралі ЕГУ?**

— Віленскі вольны дух перамог акадэмічныя водары Менска. Я доўгі час марыў пабываць у Вільні, і тыя гады, што я правёў ва ўніверсітэце, незабыўныя. Дзякуй ЕГУ за гэта.

**— Ваш улюбёны футбольны клуб?**

— Не захапляюся футболам. Адно што як гарадзенец падтрымліваю мясцовы «Нёман». І ганаруся Глебам. Калі я кажу, што нарадзіўся ў Беларусі, першае, аб чым узгадваюць замежнікі: «Ah, I know Belarus, you are the country of Alexander Hleb».

**— Што Вы звычайна ясцё на сняданак?**

— Звычайна не снедаю ўвогуле.

**— Што Вы рэгулярна ясцё ў Брытаніі тое, чаго Вашы бацькі ў Беларусі не ядуць?**

— Калі б мая сям'я пабачыла, што я тут ем, мяне б на вуліцу не выпускалі пагуляць... Усякае ем. Бывае і фаст-фуд з ранку да вечара. Такі тут хуткі рэжым жыцця. «Жудка-смачна». Па беларускай ежы сумую ў Брытаніі!

**— Як у Брытаніі тыпова адпачываюць на выхадных?**

— Залежыць ад тэрыторыі і сацыяльнага класа. Многія сем'і выязджаюць з дзецьмі ў паркі ці на шопінг. Пралетарыят месцамі квасіць гэтак жа, як і ў нас.

**— Апошняя кніга, якую Вы прачыталі?**

— «Чазенія» Караткевіча са Скарынаўскай бібліятэкі ў Лондане.

**— Апошні серыял, які Вы глядзелі?**

— *True Detective*, добрае кіно. Але не дужа часу маю на такія рэчы.

**— Ці праўда, што Вы працуеце на Катарскі фонд развіцця?**

— Адразу скажу, што да маёй масонскай працы гэта не мае ніякага дачынення. Я быў першым беларусам, што ўзяў удзел у Сусветным саміце па інавацыях у адукацыі, які штогод арганізоўвае Катарскі фонд па адукацыі, інавацыях і развіцці. Апроч таго, з групай калег з працоўнай групы пад патранажам Катарскага фонду па адукацыі я займаюся праектам па імплементацыі інавацыйных тэхналогіяў у сферы спецыяльнай адукацыі на Блізкім Усходзе. Кіраўніцтва Катара шмат сілаў укладвае ў развіццё жыхароў сваёй краіны, мы распрацоўваем стратэгію ўкаранення інавацыйных прыладаў для дзяцей з праблемамі слыху і маўлення у звычайных школьных класах, каб дапамагчы дзяржаве забяспечыць добры ўзровень адукацыі для ўсіх грамадзян. Мо праз нейкі час я змагу гэты вопыт перанесці ў беларускія школы і дапамагчы нашым дзеткам, што маюць праблемы са здароўем.

**— Лондан для Вас — гэта...**

— Горад магчымасцяў.

**— Вільня для Вас — гэта...**

— Горад-каханне.

**— Хто Ваша «яна»?**

— Мы ведаем, што мы ёсць разам, і гэтага мне дастаткова. Цяпер мы жывём вельмі далёка і бачымся радзей, чым хацелася б. Гэткае яно, каханне на дыстанцыі.

**— Беларусь для Вас гэта «праект» ці «Богам дадзеная рэальнасць»?**

— Як казаў класік, «на Беларусі Бог жыве». У нас добрыя людзі, можа, крыху інфантыльныя часам, але ад гэтага не менш цікавыя, чым іншыя еўрапейцы. Я вандраваў па свеце і маю з чым параўнаць. Не горшыя і не лепшыя за іншых. Жыхары Англіі — гэта японцы Еўропы. А вось загадкавую беларускую душу я так і не зразумеў да канца. «А хто там ідзе?» — гэта пытанне, на якое нам усім цяжка адказаць.

**— Бог для Вас гэта... Ці яго няма?**

— Рэлігія — гэта далікатнае і вельмі асабістае пытанне для кожнага чалавека. Я не гавару на рэлігійныя тэмы. Але абавязковае патрабаванне пры прыняцці ў англійскую масанерыю — вера ў вышэйшую сутнасць, *'the Supreme Being'*. Абмяркоўванне рэлігійных пытанняў у Ложы забаронена, але падчас ініцыяцыі кожны масон прыносіць сваю Святую Кнігу — Біблію, Каран, Тору — і на ей прысягае сваім масонскім братам трымаць у тайне супольныя сакрэты... Напачатку гісторыі брытанскага масонства прымаліся толькі хрысціяне, але з цягам часу правілы змяніліся.

# «Раптам з’явіліся літоўцы...»:

## у нямецкіх хроніках знайшліся сенсацыйныя звесткі пра Кулікоўскую бітву

Піша гісторык **Піліп Падбярозкін**.

Здавалася б, пра Кулікоўскую бітву вядома ўсё. 8 верасня 1380 аб’яднаныя сілы рускіх князёў пад кіраўніцтвам вялікага князя Маскоўскага Дзмітрыя Іванавіча разбілі мангола-татарскую арду цемніка Мамая. Дзякуючы рускім летапісам і фальклору, перамога на Куліковым полі легла ў падмурак дзяржаваўтваральнай ідэалогіі вялікіх князёў Маскоўскіх і рускіх цароў, а затым расійскай нацыянальнай міфалогіі. Бітва на Куліковым полі сталася не проста гістарычнай падзеяй, але часткай сакральнага светапогляду. Бо вядомыя ўдзельнікі бітвы — манахі Перасвет і Аслябя — з’яўляюцца акцёрамі іншага расійскага нацыянальнага міфа, звязанага з Сергіем Раданежскім і Троіца-Сергіевай лаўрай. Такім чынам, бітва на Куліковым полі — частка рускай праваслаўнай культуры.

І разам з тым падзеі верасня 1380 дагэтуль выклікаюць спрэчкі сярод навукоўцаў. Парадаксальна, але такая эпахальная бітва амаль не знаходзіць пацверджання археалагічных крыніц; вядуцца спрэчкі і пра месца бітвы, і пра склад яе ўдзельнікаў.

Але тое, што гэта было сутыкненне рускіх з татарамі і першыя перамаглі, ніколі не выклікала пярэчанняў у гісторыкаў. Праўда, як высветлілася, існуюць тэксты замежнага паходжання, сведчанні якіх супярэчаць інфармацыі рускіх летапісаў.



Кулікоўская бітва — у падмурку расійскай нацыянальнай міфалогіі. Карціна «Перамога Перасвета» сучаснага расійскага мастака Паўла Рыжэнкі. 2000-я.

### «Рускія ндоўга радаваліся перамозе»

Гэта тэксты нямецкіх хронік XIV—XVI стагоддзяў. Найбольш «завершаным» апісаннем Кулікоўскай бітвы ў нямецкай сярэднявечнай гістарыяграфіі з’яўляецца сюжэт з твора «Вандалія» (*Wandalia*) гуманіста і тэолага з Любека Альберта Кранца. Вось як падзея адлюстраваная ў кёльнскім выданні 1519 года: «Таксама ў гэты час была ў адным месцы, што завецца Флавасэр (*Flawasser*), вялікая бойка паміж рускімі і татарамі, дагэтуль нечуваная паміж людзьмі. Бо ў ёй было забіта 200000 чалавек. Звычай гэтых народаў не такі, як у нас. Бо яны скачуць туды і сюды і страляюць адзін у аднаго з лукаў. Перамога схілілася да рускіх, якія захапілі немалую здабычу быдла, бо іншай здабычы гэтыя народы не ведаюць. Аднак рускія ндоўга радаваліся перамозе, бо татары аб’ядналіся з літоўцамі, пабілі рускіх, адабралі ў іх быдла. Гэта адбылося ў год Госпада нашага і Збаўцы ад нараджэння тысяча трыста восемдзесят першы».

Больш раннія хронікі (напрыклад, хроніка Германа Корнера) падаюць сюжэт пра Кулікоўскую бітву больш сцісла: у іх няма апісання варварскіх звычаяў «нашчадкаў скіфаў». Тым не менш сюжэт пра раптоўны напад літоўцаў і паразу рускіх ёсць і там. І дата больш дакладная — 1380.

Адным з самых ранніх сведчанняў з’яўляецца тэкст Дзетмара з Любека, які складаў сваю хроніку якраз у 1380-я: «(1380) У той жа самы час была вялікая бойка ля сіняй вады (*blowasser*) паміж рускімі і татарамі; з абодвух бакоў загінула ля 400000, рускія перамаглі. Як толькі яны хацелі выправіцца з вялікай здабычай, прыйшлі літоўцы ім насуперак, якіх татары прасілі па дапамогу, і адабралі ў іх здабычу, і знішчылі многіх з іх на полі».

Падобныя звесткі аб паразе рускага войска ёсць і ў прускай храністыцы — у прыватнасці, у хроніцы Яна фон Позільге (*Johann von Posilge*).



**Піліп Падбярозкін**

Нар. у 1991 у Мінску. Выпускнік гістфака БДУ. Стажаваўся ў Лейпцыгскім універсітэце. Займаецца кантактамі германцаў і ўсходніх славянаў у познім сераднявеччы (XIV-XVI ст).

### Сведкі — нямецкія графы

Несупадзенне інфармацыі рускіх летапісаў і нямецкіх хронік кідаецца ў вочы. Так, у Ноўгарадскім летапісе пазначана: «1380: «Тады ж была даравана перамога князю вялікаму месяца верасня ў 8... князь жа вялікі Дзмітрый... сам прыехаў Богам хранімы ў стольны і вялікі горад Маскву, у айчыну сваю, з братам Уладзімірам».

Ці магчымы варыянт, што нямецкія храністы зблыталі Кулікоўскую бітву з бітвай на Сіняй вадзе 1362/1363, падчас якой вялікі князь Літоўскі Альгерд разбіў войска татарскіх царэвічаў на тэрыторыі сучаснай паўднёвай Украіны? Аднак, як адзначана вышэй, прыведзеныя намі тэксты былі створаны у 1380—90-я, а гэта значыць, што аўтары былі сучаснікамі тых падзей. Да таго ж у нямецкіх хроніках падрабязна апісваюцца сюжэты, блізкія па часе да бітвы на Куліковым полі — гэта аблога Полацка літоўскім князем Скіргайлам у 1381, а таксама аблога Масквы ханам Тахтамышам у 1382. Такім чынам, сюжэтна і храналагічна можна пацвердзіць карэктнасць нямецкіх храністаў і сцвярджаць, што пад *Blawasser* маецца на ўвазе менавіта бітва на Куліковым полі 1380. Проста тут, у адрозненне ад тэксту рускіх летапісаў, мы даведваемся пра «працяг гісторыі» — з’яўленне саюзнага татарам войска ВКЛ.

Традыцыі рускага летапісання і нямецкая познесярэднявечная храністыка паміж сабой не звязаныя. Нямецкія храністы не чыталі рускіх летапісаў, і, наадварот, рускія летапісцы не былі знаёмыя з нямецкімі хронікамі. Але з якіх тады вусных крыніц нямецкія храністы маглі даведацца пра бітву на Куліковым полі?

Каб адказаць на гэтае пытанне, неабходна знайсці ў хроніках падзею, дзе былі б задзейнічаны «літоўцы», «немцы» і «рускія» і якая б была храналагічна блізкай да бітвы на Куліковым полі. Такой падзеяй з’яўляецца аблога Полацка літоўскім князем Скіргайлам восенню 1381 года, добра адлюстраваная і ў наўгародскім летапісанні, і ў ордэнскіх хроніках. Падчас дынастычнага крызісу 1370—80-х у Вялікім Княстве Літоўскім полацкі князь Андрэй Альгердавіч разам з братам Дзмітрыем Альгердавічам уцёк на службу да маскоўскага князя Дзмітрыя Іванавіча (яны біліся на баку рускага войска супраць татар на Куліковым полі). Вялікі князь Літоўскі Ягайла прызначыў свайго брата Скіргайлу Альгердавіча полацкім князем. Але палачане выгналі Скіргайлу за яго «паганства». У адказ апошні прыйшоў пад горад з «нямецкай рацццю» — войскам лівонскага магістра.

У тэксце хронікі Віганда з Марбурга ёсць згадка пра аднаго з непасрэдных удзельнікаў аблогі: «*Comes Starke de Marchia comesque Clevensis*» (моцны граф Маркі і граф Клевэ). Такім чынам, у аблозе Полацка бралі ўдзел прадстаўнікі графстваў Клевэ і Маркі, землі якіх знаходзяцца недалека ад сучаснай мяжы Германіі і Нідэрландаў.

### Нямецкія хронікі не цэнзуравалі

З мясцовых хронік графаў Маркі (хроніка Левольда фон Нортхафа) і клеўскай хронікі Герта ван Шурэна вынікае, што адзін з графаў Маркі — Энгельберт III (1330—1390) — удзельнічаў у паходзе супраць «паганцаў і сарацынаў» горада «Plosko». З хронікі ван Шурэна можна зразумець, што восенню 1381, пасля паходу супраць полацкіх «паганцаў», у Кёнігсбергу адбылася памінальная трапеза. Падчас такіх трапезаў «госці» — замежныя рыцары, якія бралі ўдзел у паходах Тэўтонскага ордэна, — апісвалі свае «подзвігі», а таксама навіны, якія яны чулі ў паходах. Таксама восенню 1381 у Любеку прайшоў ганзейскі з’езд, у якім удзельнічалі прадстаўнікі прускіх гарадоў і якія добра вядомы любекскім і прускім храністам. Цалкам верагодна, што расповед пра Кулікоўскую бітву і напад літоўцаў быў перададзены такімі рыцарамі, як граф Энгельберт на трапезе ў Кёнігсбергу, а потым пачуты падчас з’езда. Бо сюжэт пра бітву ёсць ва ўсіх асноўных любекскіх хроніках XIV—XV ст. — хроніцы Дзетмара і хроніцы Германа Корнэра, а таксама творы «Wandalia» Альберта Кранца, а таксама прускіх хроніках — хроніцы Іаана фон Позільге і «Торунскіх аналах». Храналагічна сюжэты таксама супадаюць, бо ўсе названыя хронікі актыўна вяліся напачатку 1380-х.

Чаму ж тэкст пра бітву ў нямецкіх хроніках і рускіх летапісах адрозніваецца? Гэта можна патлумачыць тым, што сюжэт у нямецкіх хроніках не рэдагаваўся пазней (як гэта было зроблена з ноўгарадскімі летапісамі ў XV—XVI ст.).

Такім чынам, гісторыя бітвы на Куліковым полі набывае новую інтрыгу, дзякуючы прыцягненню «нетрадыцыйных» пісьмовых крыніц — нямецкіх лакальных хронік. Ажывіць «кулікоўскі дэтэктыў» дапамагаюць новыя сведкі — такія, як граф Энгельберт фон Марк. Толькі сведчанні такіх, як ён, рэальных асоб, якія б ядналі ў сваім жыцці сведчанні рускіх летапісцаў і нямецкіх храністаў, дапамогуць адказаць, што насамрэч адбылося на Куліковым полі (*Blawasser?*) 8 верасня 1380.

**Ягайла і рацыянальнасць**

Пра тое, што вялікі князь Літоўскі Ягайла з войскам ішоў на помач Мамаю, пісалі і расійскія гісторыкі. Аднак у бітве літоўцы не ўдзельнічалі. Расійская гістарыяграфія тлумачыла гэта па-рознаму. Паводле адной версіі, Ягайла проста не паспеў прыйсці ў час, паводле другой, пабаяўся выступаць на баку татараў з-за «прамаскоўскіх настрояў» ва ўласным войску.Аднак проста развярнуць свае свежыя палкі і пайсці дахаты з адлегласці ў некалькі дзённых пераходаў — ці мог Ягайла так дзейнічаць? Звесткі з нямецкіх хронік даюць прынамсі рацыянальнае тлумачэнне яго дзеянням.

# Манах-расстрыга: Я не веру, што Бог ёсць, але спадзяюся, што ён існуе

Аляксандру — 37 гадоў. Дваццаць з іх ён правёў у служэнні Богу. Быў паслушнікам, інакам, манахам, іерадыяканам, іераманахам. Прапаноўвалі зрабіць ігуменам, але ён адмовіўся. **Будаваў цэрквы, быў настаяцелем у вёсцы.** А потым — сышоў…

**Сам я цяпер агностык. Калі вы спытаеце, ці ёсць Бог, я адкажу: не ведаю**





### Жыццё з Богам…

Аляксандр нарадзіўся ў мястэчку Камарын Гомельскай вобласці. Рос без бацькі. Потым паступіў у політэхнічны тэхнікум на электрыка, перабраўся ў Гомель.

«У маладосці заўсёды ёсць патрэба ў сэнсе жыцця, у мэце. І мяне цікавіла: дзеля чаго я жыву? І так выйшла, калі я вучыўся ў тэхнікуме, разваліўся атэістычны СССР, пачалі адраджаць храмы. І мне здавалася, што царква і ёсць тая аснова, да якой трэба імкнуцца, бо яна прайшла праз столькі ганенняў і зняваг і выстаяла. З аднагрупнікамі мы пачалі наведваць царкву, маліцца, чымсьці дапамагаць, — расказвае Аляксандр. — Усе падлеткі максімалісты: калі нечым захапляешся, дык аддаешся цалкам. Увогуле, шчырая вера ў Бога вельмі падобная да закаханасці: калі кахаеш, то гатовы на ўсё, так і тут».

Але, акрамя аднагрупнікаў новае захапленне хлопца ніхто не падтрымаў. Сям'я ў яго была абсалютна не рэлігійная, і маці катэгарычна была супраць яго дачыненняў з Богам. Для яе гэта было дзікунства. Нават настаўніца, класны кіраўнік з тэхнікума, спрабавала адгаварыць свайго навучэнца, але нічога не выйшла.

«Падчас вучобы якраз адкрыўся гомельскі Свята-Мікольскі мужчынскі манастыр, і мяне таксама запрашалі туды. Хутка я ўжо заставаўся ў манастыры і на ноч, — кажа Аляксандр. — Там былі хлопцы, мае аднагодкі, няшмат, але нас аб'ядноўвала тое, што мы былі маладыя, шчырыя, і ў гэтым асяроддзі мне было камфортна. Мы верылі, што цяпер, на нашых вачах і з нашым удзелам, адраджаецца царква, і трэба яе максімальна падтрымаць. Я і сёння ганаруся тым, што мы сябравалі».

Спачатку хлопец не думаў, што застанецца ў манастыры. Але яму там падабалася, і хутка ён сышоў з інтэрната, пасяліўся ў кляштары. Вучобу не кідаў, ездзіў у тэхнікум. Так прайшло каля трох гадоў. І думка прыняць пострыг выспела паступова.

«З пострыгам спяшацца не трэба, нядаўна патрыярх Кірыл увогуле казаў, што лепш ісці ў манахі пасля трыццаці. Але ў той час пастрыгалі і ў 18, і ў 19 гадоў. Я скончыў вучобу, і праз пару месяцаў прыняў пострыг. У манастыр, дарэчы, я прыйшоў на дзень святога Мікалая. І манастыр насіў яго імя. Таму і маё манаскае імя было Мікалай, — расказвае Аляксандр. — Пасля пострыгу чалавек дае тры найгалоўныя запаветы: цнатлівасць, паслухмянасць, няхцівасць. Я, канечне, думаў: а як я буду жыць без жанчын? Але ў манастырах ёсць метады, як перанесці гэтую праблему. Я яе пераадолеў. Мне вельмі дапамагала засяроджанае чытанне «Ісусавай малітвы». Большай праблемай для мяне стала разуменне таго, што ў мяне ніколі не будзе дзяцей. Гэта вельмі ціснула на мяне. Але і з гэтым я б змог справіцца. Сышоў я не таму».

У манахаў усе дні падобныя адзін да аднаго. Пад'ём каля 5 раніцы. Паўгадзіны на гігіенічныя працэдуры, затым брацкі малебен. Ён працягваецца некалькі гадзін. Прыкладна а 8 пачынаецца ранішняя літургія, яшчэ адно богаслужэнне, якое таксама цягнецца 2—3 гадзіны. Затым лёгкі сняданак і послух, працай кажучы — праца. Далей — абед. Усе ядуць моўчкі, а адзін з манахаў чытае ўголас нешта з жыцця святых ці нейкае павучанне. Пасля абеду невялікі адпачынак, затым ізноў праца. А 17 гадзіне — вячэрняе богаслужэнне, затым вячэра, малітва і некалькі гадзін на прыватныя справы. І каля 11 гадзіны — адбой. Па словах Аляксандра, паміж выходнымі і буднямі — розніцы амаль не было.

«Хоць у маёй працоўнай кнізе і запісаны стаж, але грошай манахі не зарабляюць і не маюць. Усім неабходным іх забяспечвае манастыр: патрэбен абутак — набудуць, трэба з'ездзіць да бацькоў — дадуць грошы на квіток. Выходзіць з манастыра можна, але трэба папярэджваць «начальства». Цяпер увогуле манахі маюць афіцыйныя вакацыі. Тэарэтычна, можна нават паехаць адпачываць за мяжу, але ізноў жа трэба напісаць прашэнне на імя епіскапа ці кіраўніцтва манастыра, указаць дзе будзеш і як з табой звязацца. Па вялікім рахунку, гэта нагадвае армію».

### …і без Яго

З манастыра сыходзіць шмат людзей. Але большасць па знешніх прычынах: канфлікты ці проста цяжка. Аляксандр жа — адзін з тых нешматлікіх святароў, якія страцілі веру ў тое, што складала аснову іх жыцця, і таму прынялі сваё рашэнне.



«Я сышоў, бо я зняверыўся ў царкоўных дагматах. У мяне заўсёды былі сумневы. І мне было важна ў іх разабрацца, я іх не баяўся, — тлумачыць Аляксандр. — Я шмат чытаў па гэтай тэме і прыйшоў да высновы, што Ісус быў цудоўным і незвычайным чалавекам, але не быў Богам, як вучыць царква. І гэта было асноўным, пасля чаго ўсё пасыпалася. Бо калі Хрыстос не Бог, то ўзнікаюць пытанні аб Тройцы, аб літургіі, еўхарыстыі...»

«Я хацеў сысці ціха, але падзяліўся сваімі думкамі не з тымі людзьмі, і пра гэта даведаліся. Былі і такія, хто казаў пра мяне: «Юда», што я адрокся ад Хрыста. Але я з імі не згодны. Калі б я сапраўды верыў і сышоў — вось тады б я адрокся. Мне кажуць, што я здрайца і пакінуць веру — гэта тое самае, што пакінуць сваю жонку з дзецьмі, сваю сям'ю. Але ж гэта не так. Мая сітуацыя: нібыта я прачнуўся і зразумеў, што жонкі ніколі і не існавала, яна была галюцынацыяй, фантомам, у які я чамусьці паверыў», — тлумачыць Аляксандр.

Увогуле, лічыць ён, пытанняў сёння да царквы шмат. Калі чалавек пачынае жыць так, як вучыць царква, і ставіцца да гэтага сур'ёзна, ён бачыць шмат супярэчнасцей. «Я не супраць царквы, — падкрэслівае наш суразмоўца, — я лічу, што царква павінна таксама мяняцца, рэфармавацца з цягам часу. Нельга ўпіхнуць людзям XXI стагоддзя сярэднявечныя правілы і погляды на жыццё».

«Я ведаю, што рэлігія дапамагае. Але сёння шмат святароў забываюцца на сваё месца, забываюцца на сумленне і сціпласць. І ў адносінах да праваслаўнай царквы сёння адчуваецца напружанасць у грамадстве. У тую ж Кастрычніцкую рэвалюцыю загінула столькі святароў, бо народ ім не верыў. Каб царква тады была б іншай, людзі б яе адстаялі, не пагадзіліся так лёгка на бальшавіцкі лозунг «Бога няма», — мяркуе Аляксандр.

Сам я цяпер агностык, кажа ён. Калі вы спытаеце, ці ёсць Бог, я адкажу: не ведаю. З трох хрысціянскіх цнотаў: веры, надзеі і любові — мая вера перайшла ў надзею. Я не веру, што Бог існуе, але спадзяюся, што так».

Цяпер ідзе другі год, як Аляксандр пакінуў царкву. Калі сыходзіш з манастыра, ніякі грашовы разлік не праводзяць. Сыходзіш з тым, з чым прыйшоў. Але ў яго трошкі грошай было, калісьці нешта давалі знаёмыя, сябры. На першы час хапіла. Месяц ён пражыў у Гомелі, затым перабраўся ў Мінск. Сёння ён — слесар-электрык у сталічнай прыватнай фірме.

«Хачу неяк зачапіцца ў жыцці, успомніць свае працоўныя навыкі і завесці сям'ю, нарадзіць дзяцей — простыя чалавечыя жаданні, — кажа Аляксандр. — Фактычна ад царквы мяне не адлучылі. Я магу пакаяцца і вярнуцца. Але калі я не змяню сваіх поглядаў — гэта будзе падман. А падманваць я не хачу».

**Улад Швядовіч**

# Праваслаўны дзяк з Віцебска называе беларускіх чыноўнікаў ворагамі «рускага свету» і абяцае дзейнічаць, «як на Данбасе»

На некаторых беларускіх і расійскіх праваслаўных сайтах нехта **Анатоль Шлыкаў** распаўсюджвае дзіўныя звароты.

Напрыклад, Шлыкаў выносіць пісьмовае папярэджанне беларускім чыноўнікам за «правакацыю» супраць газеты «Наше православие», якой Мініфарм вынес афіцыйнае папярэджанне. Самае цікавае, аўтар перакананы, што на дзярждэпаўскіх пайках сядзяць не толькі зненавідныя яму «свядомыя», але і дзяржаўныя ідэолагі. На думку Шлыкава, яны атрымалі непасрэдную задачу — «даводзіць да слёз праваслаўных вернікаў». «Але ці паслухаюць ідэолагі свой народ? Не. Бо для гэтага ім трэба адмовіцца ад дзярждэпаўскіх піражкоў, а гэта не ў сілах беларускіх ідэолагаў», — сцвярджае Шлыкаў.

«Калі раптам беларускаму прэзідэнту па нейкіх прычынах не ўдасца ўтрымаць у краіне сітуацыю пад кантролем, то мы, праваслаўныя хрысціяне, паступім гэтак жа, як і жыхары Данбаса. Але, у адрозненне ад іх, мы не будзем абмяжоўвацца адной або двума абласцямі — мы вызвалім усю Беларусь ад майданчыкаў», — ад імя праваслаўных вернікаў гаворыць Шлыкаў.

Адзінымі пазітыўнымі чыноўнікамі ў матэрыялах Анатоля Шлыкава паўстаюць былы кіраўнік Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра Аляксандр Базанаў, а таксама ягоны намеснік Леў Крыштаповіч, якія летась былі пазбаўленыя пасад.

У іншай публікацыі аўтар адзначае: «Беларусы зайздросцяць расейцам. У іх ёсць тысячагадовая гісторыя. У нас, беларусаў, няма гісторыі, але ёсць гісторыкі, якія абвясцілі яе выдуманай».

У сваіх шматлікіх публікацыях Анатоль Шлыкаў называе сябе «выконваючым абавязкі панамара ў храме святой роўнаапостальнай Алены». У простай мове панамароў часам называюць «дзячкамі».

Просты пошук у інтэрнэце дазваляе знайсці, што асноўным месцам працы Анатоля Шлыкава з'яўляецца прыватнае прадпрыемства, якое займаецца продажам польскіх помпаў.

**Зміцер Панкавец**

# Алёна Ланская: «Асноўныя прыхільнікі «Еўрабачання» — сэкс-меншасці». А яе аўтамабіль каштуе 52 тысячы еўра



Спявачка Алёна Ланская, пратэжэ мільянера Аляксандра Шакуціна, расказала пра свой аўтамабіль парталу *Tut.by.*

Гэта *Mercedes E350 4-matic*, набыты ў мінскім салоне ў 2011. На той момант аўтамабіль каштаваў каля 52 тысяч еўра.

У тым годзе Ланская выйграла гран-пры «Славянскага базара», але ўзнагарода складала $15 тысяч.

У гутарцы, сярод іншага, спявачка выказала сваё меркаванне наконт «Еўрабачання» і Канчыты Вурст.

«І песня была шыкоўная, і праспявала яна яе добра — куды тут пойдзеш супраць гэтага? Да таго ж усе ведаюць, што асноўныя прыхільнікі «Еўрабачання» — гэта прадстаўнікі сэксуальных меншасцяў, якія і падтрымалі Канчыту. Усе кажуць, што гэта конкурс хатніх гаспадынь, але гэта ўжо не так», — заявіла Ланская.

Яна ўдакладніла, што асаблівую папулярнасць конкурсу сярод прадстаўнікоў сэксуальных меншасцяў трэба прымаць як дадзенасць, бо нічога дрэннага ў гэтым няма.

«Кожны мае права выбіраць сабе вобраз. Мы ж таксама ходзім у тэатр і глядзім, як мужчыны пераапранаюцца ў жанчын, а жанчыны — у мужчын. Гэта асабістая справа кожнага», — перакананая яна.

**Паводле Tut.by**



**Больш за дзве тысячы католікаў удзельнічалі ў працэсіі Божага Цела, якая праходзіла 31 мая на цэнтральных вуліцах Мінска. Рэлігійнае дзеянне пачалося ранішнім набажэнствам каля касцёла Найсвяцейшай Тройцы (Святога Роха) на вуліцы Залатая Горка. Першае набажэнства ўзначаліў апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдзіа Гуджэроці. Пасол Ватыкана чытаў тэкст на беларускай мове.**



**У Нацыянальнай бібліятэцы прайшоў паказ калекцыі сучасных вышыванак ад беларускай майстэрні *Elen Carotte*. Адзежа для дзяцей і моладзі сатканая з лёну высокай якасці, а вышыўка, максімальна набліжаная да рэгіянальных узораў, захоўвае асноўныя рысы, характэрныя для беларускай кашулі. Разам з тым крой адаптаваны да сучаснага адзення.**



## Анекдоты і жарты

* * *

— Дзеці, не забудзьцеся прынесці заўтра па сто тысяч рублёў на рамонт школы.

— Вера Пятроўна, а мае бацькі за мяжой.

— А ты, Вовачка, прынясі ў валюце.

* * *

Не трэба мужчын у ЗАГСе пытацца рознае глупства пра гора і радасць, трэба адразу пытацца, ці гатовы ён быць галодным, вінаватым і заўжды ўсё абавязаным.

* * *

—Тата, я вырашыў зрабіць сваю кар'еру ў арганізаванай злачыннасці.

— На дзяржслужбе або ў прыватным сектары?

* * *

Спрэчка паміж аматарам пэпсі і аматарам колы ўжо амаль скончылася, але тут у аднаго засваніў айфон, а ў другога — самсунг...

* * *

— Чаго ты плачаш?

— Кніжка сумная.

— А што за кніжка?

— Заліковая.

* * *

На выбарах прэзідэнта ФІФА прадстаўнік Беларусі па звычцы прагаласаваў за Лукашэнку.

## З жыцця

**Хто вы па нацыянальнасці?**

— А вы кто по национальности? — пытаецца даішнік, разглядаючы мае правы.

— Беларус.

— Странно.

— Што? — не разумею яго я.

— Ну, странно, говорю. Права у вас по-белорусски. Впервые такие вижу.

**Віталь Зыблюк, facebook.com**

## «НН» сто гадоў з вамі

**З роспачы.** У Полацку вучаніца сёмага класа гімназіі, паненка Гл., даведаўшыся, што экзамены не ўдаліся, кінулася ў раку і ўтапілася.

**«НН». №21. 1915.**

**Сто гадоў таму Якуб Колас** трапіў у турму за ўдзел у нелегальным сходзе настаўнікаў, а цяпер для Уладзіміра Коласа «маёўка» стала крокам на шляху да прэзідэнцкіх выбараў — 2006. У апошнюю суботу мая яго кандыдатуру прапанаваў Усебеларускі сход інтэлігенцыі.

**«НН». №21. 2005.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»: З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ: 220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by
Падпісны індэкс: індывідуальны — 63125, для прадпрыемстваў — 631252

Наклад 7001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 02.06.2015.
Замова №2132.
Рэдакцыйны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12